Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 10
КАСТРЫЧНІК

МЕНСК — 1928

**М. Ляўкоў**

# Перавыбары саветаў і задачы па арганізацыі беднаты і батрацтва

Надзвычайна вялікае палітычнае значэньне перавыбарчай кампаніі саветаў у тым, што пры яе правядзеньні мабілізуецца ўвага шырокіх мас навокал пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва, актывізуюцца масы, займаюцца праверкай усёй работы сваіх выбарчых органаў, ацэньваюць гэтую работу з пункту гледжаньня дасягненьняў і недахопаў, крытыкуюць адмоўныя бакі яе, выяўляюць прычыны недахопаў, даюць свае прапановы.

Словам—у час перавыбараў саветаў, побач з разгортваньнем шырокай савецкай дэмакратыі, значна ўзрастае актыўнасьць мас. Адсюль падвойна важная задача партыйных арганізацый (акругкомаў, райкомаў, ячэек) гэта—*умець арганізаваць актыўнасьць мас у час перавыбараў, умець пасьля перавыбараў захаваць гэту актыўнасьць на высокім узроўні, накіроўваючы яе на справу сацыялістычнага будаўніцтва.*

Роля беднаты і батрацтва ў гэтай справе надзвычайна вялікая і важная. Бедната і батрацтва, як апора партыі на вёсцы, як непасрэдны будаўнік савецкага ладу і сацыялістычнай гаспадаркі, павінны быць на чале ў час перавыбараў саветаў і пры правядзеньні ўсіх мерапрыёмстваў на вёсцы.

Перавыбары саветаў будуць праходзіць (гэта трэба ведаць) пры абвостранай клясавай барацьбе ў вёсцы. Кулак, пры дапамозе былых людзей, будзе актыўна дамагацца таго, каб прайсьці ў савет, да кіраўніцтва. Для гэтай мэты кулацтва поўнасьцю будзе выкарыстоўваць агульныя цяжкасьці, зьвязаныя з рэканструкцыяй народнай гаспадаркі, а таксама асобныя недахопы работы мясцовых савецкіх і іншых арганізацый, будзе вышукваць слабыя мясьціны арганізацыйнай падрыхтоўкі, каб зрываць справаздачныя і перавыбарчыя сходы. *Бедната і батрацтва, разам з серадняком, павінны быць гатовы ў такіх выпадках даць рашучы адпор кулацкім намерам і тым забясьпечыць дзелавое абмеркаваньне справаздач, нармальнае абгаварэньне кандыдатур і правядзеньне перавыбараў саветаў.*

*Дамагчыся поўнай палітычнай ізаляцыі кулака ў час перавыбараў* і не *дапусьціць ніводнага кулака ў саветы*—актуальнейшая задача партыйных арганізацый. Выкананьне гэтай задачы цалкам будзе залежаць ад якасьці падрыхтоўкі вясковых раённых партарганізацый і асабліва ячэек. Гэтак і толькі гэтак стаіць пытаньне.

Такім чынам, надыходзячыя перавыбары саветаў павінны зьявіцца (і зьяўляцца) праверкай дасягненьняў работы паасобных арганізацый, і цалкам усёй КП(б)Б у справе арганізацыі беднаты і батрацтва, замацаваньня блёку беднаты з серадняком і наступленьня на кулака. Адсюль *работа па арганізацыі беднаты і батрацтва навокал партыі павінна стаяць у асяродку ўвагі ўсіх партыйных арганізацый.*

Дырэктыва ЦК — „Асаблівую ўвагу зьвярнуць на падрыхтоўку арганізаванага і актыўнага ўдзелу ў кампаніі перавыбараў саветаў вясковае беднаты, дзеля чаго выпрацаваць па кожнай акрузе, па кожным раёне, сельсавеце канкрэтныя пляны і дырэктывы аб скліканьні і рабоце сходаў беднаты і асабліва груп беднаты, у гэтай кампаніі"— павінна поўнасьцю знайсьці адбітак у рабоце акруговых і раённых арганізацый, у рабоце ўсіх вясковых ячэек.

Кожная ячэйка, кожны партыец павінны добра ўявіць, што *роля беднаты і батрацтва ў перавыбарах саветаў будзе тым большая, актыўнасьць і клясавая сьвядомасьць іх тым вышэйшая,* чым больш поўна будзе абхоплена работай бедната і батрацтва праз сходы беднаты, праз раённыя нарады груп беднаты, праз ажыўленьне работы груп беднаты.

Цяпер, калі праходзяць перавыбары партыйных органаў (бюро ячэек, райкомаў) патрэбна *паставіць пытаньне ў кожнай ячэйцы, у кожным райкоме—ці ўсё зроблена, каб наладзіць работу з беднатой, арганізаваць беднату і батрацтва навокал партыі?* Калектыўна абгаварыць яго, знайсьці адказ, чаму ня ўсё зроблена, і на падставе дырэктыў, якія маюцца, узяцца за работу, распрацаваўшы для сябе канкрэтны плян з вучотам усіх мясцовых асаблівасьцяй.

У рабоце з беднатой і батрацтвам не абмяжоўвацца фармальным правядзеньнем сходаў і арганізацый груп беднаты „на паперы", што маецца ў шэрагу выпадкаў, а *рашуча дамагацца якаснага палепшаньня гэтай работы, дадаючы ёй практычны зьмест, робячы яе жывой, канкрэтнай.* Праз існуючыя формы *трэба навучыць беднату і батрацтва працаваць практычна, зрабіць іх памоцнікамі ячэйкі ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве вёскі.* Дасягнуць апошняга можна толькі пры сталым і правільным кіраўніцтве з боку райкому і ячэек арганізацыйна-гаспадарчай работай сярод беднаты.

У зьвязку з надыходзячымі перавыбарамі саветаў, *трэба зрабіць прадмэтам шырокага абгаварэньня* (праз сходы, групы і раённыя нарады груп) з беднатой і батрацтвам пытаньняў, зьвязаных з перавыбарамі саветаў, паставіўшы мэтай далейшае ажыўленьне работы саветаў, большае надбліжэньне саветаў да працоўных мас.

Трэба, каб работа саветаў за справаздачны час па асобных галінах, як: зямляўпарадкаваньне, калектывізацыя, навучаньне дзяцей у школах, рэалізацыя самаабкладаньня, выкананьне дырэктыў па сельгаспадатку, разьмеркаваньне лесу, арэнда зямлі, скарыстаньне бядняцкіх фондаў, каапэраваньне, абарона інтарэсаў наймовай рабочай сілы ў вёсцы— абавязкова была абгаворана на сходах беднаты, на групах беднаты, на раённых нарадах груп. Няхай бедната скажа, у якой меры па гэтых пытаньнях абараняліся інтарэсы батрацтва, беднаты і сераднякоў на практыцы тым ці іншым працаўнікам і цалкам сельсаветам. Няхай скажа бедната, хто працаваў у сельсавеце, а хто не хацеў і чаму, хто шкодзіў рабоце. Трэба, каб бедната і батрацтва, разам з серадняком, далі сваю ацэнку—хто можа працаваць і будаваць сацыялістычную гаспадарку і каго патрэбна гнаць з саветаў за нядбайнасьць.

Паглыбляючы работу па арганізацыі батрацтва і беднаты навокал партыі, *неабходна замацоўваць блёк беднаты з серадняком.* Для гэтага патрэбна, каб у рабоце з беднатой і батрацтвам выстарчальна находзілі адбітак інтарэсы серадняка. Серадняк ні ў якім разе не павінен быць абыйдзен. Пры абгаварэньні і вырашэньні ўсіх пытаньняў на сходах беднаты, на групах і раённых нарадах груп, інтарэсы беднаты і серадняцтва павінны ўсюды сыходзіцца.

Партыйныя арганізацыі на вёсцы павінны паказаць на мясцовых прыкладах, што *кулак зьяўляецца клясавым ворагам і батраку, і бедняку, і серадняку,* што кулак на справе выкарыстоўвае ўсе магчымасьці, каб падабраць пад свае рукі і адналькова нажыцца за кошт і батрака, і бедняка, і серадняка (кулак наймае батрака за малую цану, бедняку дае кабальную пазыку—збожжа альбо інвэнтар на адработак, серадняка эксплёатуе праз сельска-гаспадарчы інвэнтар і іншыя віды). Паказаць, як кулак, пралезшы ў асобных выпадках у склад сельсаветаў у мінулыя перавыбары, дамагаўся выкрыўленьня клясавай лініі савету ў інтарэсах кулацтва.

Паказаць на фактах беднаце і серадняку варожую кулацкую дзейнасьць у галіне зямляўпарадкаваньня і асабліва калектывізацыі, дзе кулак выступае больш актыўна і даходзіць да таго, што ў некаторых мясцох нават паліць бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі, з'арганізаваныя ў калектыў, зьнішчае межавыя знакі, робіць попыт на забойства зямляўпарадкавацеляй і інш.

З усяго выцякае, што кулак—вораг і батрацтву, і беднаце, і серадняцтву. Ім з кулаком не па дарозе, яны супольна павінны стаяць супроць кулака. Адсюль можна бачыць, што інтарэсы бедняка і батрака сустракаюцца ва ўсіх галінах працы з інтарэсамі серадняка і наадварот. Таму ў інтарэсах серадняка ісьці з беднатой супроць кулацтва.

Слабей за ўсё работа сярод беднаты пастаўлена ў нацыянальных сельсаветах і сельсаветах з рознымі нацыянальнасьцямі. Там можна бачыць такія зьявішчы, калі клясавы прынцып падмяняецца нацыянальнай „роўнасьцю". Партыйныя арганізацыі, якія кіруюць работай гэтых саветаў, павінны ўжыць усе меры і дабіцца рашучага пералому ў рабоце па арганізацыі беднаты і батрацтва нацманшасьцяй. *Нацыянальнай „роўнасьці" неабходна супроцьпаставіць клясавы прынцып.* У гэтай рабоце патрэбен максымум ініцыятывы і гібкасьці з боку вясковых райкомаў і ячэек. Акругкомы праз сваіх нац. работнікаў павінны ў гэтай рабоце ўсямерна дапамагчы вясковым партарганізацыям.

Важнейшы момант работы з беднатой і батрацтвам перад набліжаючыміся перавыбарамі саветаў, гэта выяўленьне і вылучэньне актыўных і працаздольных кандыдатаў у саветы з батракоў, беднякоў і сераднякоў. Бедната і батрацтва ў гэтым павінны дапамагчы партыі знайсьці ўсё лепшае на вёсцы, усё працаздольнае і клясава вытрыманае, каб такім чынам *яшчэ больш узмацніць саветы, ажывіць і палепшыць іх работу і тым забясьпечыць сацыялістычнае будаўніцтва вёскі.*

Пры вылучэньні новых кандыдатаў у саветы, не падыходзіць мэханічна, а ўлічыць памылкі мінулых перавыбараў і зараз-жа распачаць работу. Праглядзець сьпіскі актывістых, праверыць кожнага па здольнасьці, па клясавай вытрыманасьці, па тым, як адносіўся да праведзеных палітычных кампаній на вёсцы, якім аўтарытэтам карыстаецца ў батрацтва, у беднаты, у сераднякоў. Для выкананьня гэтак пастаўленай задачы прыстасаваць работу ячэек, райкому і саюзу сель. гас. лес. рабочых.

Зусім дрэнна будзе, калі ячэйкі пры перавыбарах выйдуць з непадрыхтаванымі і незнаёмымі ўсім кандыдатурамі і праваляцца. Райкомы гэта павінны папярэдзіць сваім кіраўніцтвам, сваім кантролем у правядзеньні ўсяе падрыхтоўчае работы.

У рабоце з беднатой і батрацтвам у час перавыбараў і іх падрыхтоўкі вялікае значэньне мае парадак і мэтад самой работы. Не абмяжоўваючы ініцыятывы і ня ставячы якіх-небудзь рамак, райкомы павінны кіравацца наступнымі асноўнымі момантамі. Перад справаздачамі саветаў абавязкова правесьці раённыя нарады груп беднаты, дзе

абгаварыць задачы, зьвязаныя з справаздачай, перавыбарамі саветаў, заслухаць і абгаварыць даклад аб рабоце РВК. Падрыхтаваўшы, такім чынам, батрацка-бядняцкі актыў усяго раёну, правесьці такую-ж работу з групамі беднаты пры сельсаветах, дзе прапрацаваць задачы, якія стаяць перад с/саветам у справаздачную і перавыбарчую кампанію і пасьля гэтага перайсьці да правядзеньня сходаў беднаты, у першую чаргу ў мясцовасьцях, дзе менш актыўна і слаба арганізавана бедната.

Абавязкова праводзіць сходы напярэдадні перавыбараў, дзе абгаварыць кандыдатуры ў сельсавет і іншыя пытаньні, якія могуць узьнікнуць у час перавыбараў.

На сходы беднаты абавязкова прыцягнуць батрачак і бяднячак; не абыходзіць, а запрашаць актывістых серадніякоў.

У выніку ўсяе работы неабходна дасягнуць выкананьня лёзунгаў— *сто процантаў беднаты і батрацтва на справаздачных і выбарчых сходах. Павялічэньне батрацка-бядняцкіх кадраў у саветах. Больш жанчын батрачак і бяднячак у саветы.*

У рабоце не раскідвацца. Больш плянавасьці, больш выразнасьці, больш кіраўніцтва і кантролю ў выкананьні дырэктыў па пытаньні арганізацыі беднаты і батрацтва.

Ан. Сталевіч

# Сялянскія партыі ў Заходняй Беларусі*)

* * *

Другая правая згодніцкая частка быўшага Беларускага Пасольскага клюбу аформілася ў дзьвюх палітычных партыях: Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя, з лідарам ксяндзом Станкевічам, і Беларускі Сялянскі Саюз паслоў Ярэміча і Рагулі. Да майскага фашыстаўскага перавароту ў Польшчы гэтыя партыі ледзь дыхалі, бо карміліся аб'едкамі з панскага стала, якія часамі кідала ім са сваёй ласкі польская буржуазія. А бурны арганізацыйны рост Грамады і магутны размах яе палітычнай працы адціснуў гэтых служак буржуазіі на задворкі палітычнага жыцьця Зах. Беларусі.

Гэрой майскага перавароту, фашыстаўскі дыктатар Пілсудзкі, знашоў патрэбным шырэй выкарыстаць паноў Станкевічаў і Ярэмічаў і бліжэй прыцягнуць іх да сваёй палітыкі вызыску і прыгнячэньня шырокіх працоўных мас Заходняй Беларусі. І дзеля таго, пры фашыстаўскай дыктатуры наглядаецца значнае ў параўнаньні з мінулым палітычнае ажыўленьне і арганізацыйнае афармленьне беларускіх згодніцкіх сялянскіх партый. Яны выпрацавалі свае праграмы, правялі шэраг канфэрэнцый, стварылі свае арганізацыі на мясцох, маюць свае культурна-асьветныя, сельска-гаспадарчыя арганізацыі і банкі, узмоцнілі выдавецкую дзейнасьць—да майскага перавароту іх газэт налічвалася ня больш 5, цяпер даходзіць да 22. Словам, польскі фашызм гальванізаваў гэтыя жывыя трупы, а дашчэнтны разгром Грамады павінен быў ачысьціць поле для іх дзейнасьці.

Перш чым перайсьці да падрабязнага паасобнага разгляду гэтых партый—гэтых выкідышаў фашыстаўскай палітыкі, неабходна затрымацца на самой палітыцы фашыстаўскага ўраду.

Уся палітыка фашыстоўскага ўраду ў адносінах да Зах. Беларусі выцякае з яго стабілізацыйных і ваенных плянаў і мае на мэце разьбіць саюз рабочых і сялян, разлажыць і разграміць рэвалюцыйны рух. Пастулаты гэтай палітыкі фашызму ў адносінах да вёскі Зах. Беларусі наступныя: першае гэта тое, што Заходняя Беларусь зьяўляецца пляцдармам у падрыхтоўваемай вайне супроць СССР; другое—Заходняя Беларусь, як аграрная краіна, пастаўляе танную рабочую сілу для капіталістычнага разьвіцьця сельскае гаспадаркі і прамысловасьці, пастаўляе сыравіну для Польшчы і замежнага экспарту і зьяўляецца рэзэрвам жывой сілы для яе імпэрыялістычнай арміі; трэцяе, тое, што магутны рэвалюцыйны сялянскі і нацыянальна-вызваленчы рух Зах. Беларусі, зьяўляючыся лепшым саюзьнікам у барацьбе пралетарыяту супроць фашыстаўскае дыктатуры зрывае стабілізацыйныя і імпэрыялістычныя пляны ўраду.

---

*) Працяг гл. № 9.

Дзеля гэтага аднэй з галоўнейшых ліній наступу фашызму на Заходнюю Беларусь зьяўляецца барацьба за вёску, за ўплыў на сялянскія масы з тым, каб ня толькі стварыць сабе базу і забясьпечыць тыл у будучай вайне супроць СССР, але і ўцягнуць шырокія масы на шлях актыўнага ўдзелу ў нападзе на БССР і УССР.

Фашыстаўскі ўрад гэтыя пляны рэалізуе сваёй нацыянальнай, аграрнай і эканамічнай палітыкай.

Уся аграрная палітыка фашыстаўскага ўраду праводзіцца ў інтарэсах абшарнікаў, кулакоў і асаднікаў за кошт руйнаваньня і абядненьня шырокіх сялянскіх мас і ўзмацаваньня эксплёатацыі сельскагаспадарчых рабочых. Наколькі ўрад зацікаўлены ў зрэалізаваньні свае абшарніцка-кулацкай палітыкі, сьведчыць павялічэньне бюджэту міністэрства зямельных рэформ: у 1925 годзе бюджэт быў—55 мільёнаў злотых, у 1927 г.—120 мільёнаў злотых.

Урад актыўна дапамагае арганізацыям абшарнікаў і палітычнаму аб'яднаньню, садзейнічае ўзмацненьню іх гаспадарчых арганізацый. Урад як у гаспадарчай, так і ў экспартнай палітыцы ідзе на спатканьне інтарэсам абшарнікаў і кулакоў (палітыка высокіх цэн на сельска-гаспадарчыя прадукты, адмена экспартных адмежаваньняў,ануляваньне падатковай задоўжанасьці і г. д.).

Першымі мерамі ў падыходзе да вёскі Зах. Беларусі з боку фашыстаўскага ўраду ў яго аграрнай палітыцы было прытупленьне тэмпу ваеннага асадніцтва і дапушчэньне да парцэляцыі беларускага кулака. Побач з тым адменены ўсялякія праваўыя забароны адносна цаны зямлі і дадзена вольная рука абшарнікам у распрадажы сваіх двароў—гэтым урад разьвязаў дзікую парцэляцыю панскіх двароў, пры якой зямля пераходзіць за грошы ў рукі вясковых багатыроў. Дзякуючы палітыцы ўраду і страшэнна высокай цане на зямлю, якую абшарнікі найчасьцей прадаюць за даляры, або царскія чырвонцы, зямлю могуць купіць толькі кулакі і нязначная частка заможнага серадняцтва. Побач з тым урад у паскораным тэмпе праводзіць ліквідацыю сэрвітутаў і кулацкую камасацыю, маючы на мэце абагачэньне і інтэнсіфікацыю абшарніцка-кулацкіх гаспадарак пры абрабаваньні з лепшых вучасткаў зямлі, пазбаўленьня пашы, сенакосаў рэшту вёскі, для якой галоўнай балячкай зьяўляецца побач з церазпалосіцай голад зямлі. Аб націску ўраду ў гэтай галіне сьведчыць той факт, што за 1927 год ліквідавана сэрвітутаў столькі, сколькі за 8 папярэдніх год, а скамасавана за гэты-ж год у два разы болей, чым за 9 папярэдніх.

Для ўзмацненьня абшарнікаў і кулакоў, для стварэньня ілюзіі сярод серадняцкіх і бядняцкіх мас фашыстаўскі ўрад шырока апякуецца і стварае розныя зямляробскія, каапэратыўныя і іншыя арганізацыі, якія кіруюцца абшарнікамі, асаднікамі і кулакамі: крэдытныя, малочныя, сельска-гаспадарчыя гурткі, пажарныя дружыны, „ізбы рольнічэ“ і г. д. Гэтыя каапэрацыйныя крэдытныя, спажывецкія зямляробскія арганізацыі яднаюць вакол сябе шмат螺 рознага тыпу таварыстваў; яны, прыкрываючыся беспартыйнасьцю, зьяўляюцца замаскаванымі каналамі, па якіх фашызм пранікае на вёску Зах. Беларусі. Урад выкарыстоўвае гэтыя арганізацыі, якія абслугоўваюць інтарэсы кулакоў і абшарнікаў, каб першым чынам па гаспадарчай лініі прабіцца ў абяднеўшае і згаладаванае сялянства, пасеяць стабілізацыйныя ілюзіі і ўсьцягнуць іх на шлях угоды, уцягнуць у рэчышча фашыстаўскай дыктатуры.

Імкненьне ўцягнуць сялянства ў каапэратыўныя эканамічна-гаспадарчыя арганізацыі буржуазіі стала з асаблівай сілай выяўляцца

пасьля сусьветнай вайны, якая нанясла руйнуючыя ўдары па сялянству. Зруйнавана гаспадарка, будова, жывы інвэнтар, растрачаны ўсе ашчаднасьці, аграмадныя страты ў людзях. Адгэтуль экстэнсыфікацыя дробнай сельскай гаспадаркі. У Эўропе бяз СССР пасеўная плошча пасьля вайны зьменшылася на 16,2 проц., ураджай наогул зьменшыўся на 33,6 проц., а пшаніца—на 42,8 проц. Калі да гэтага далучыць яшчэ разьвіцьцё капіталістычных адносін на вёсцы і нацыянальнае прыгнечаньне, як, напрыклад, у Польшчы, дык будзе ясна прычына рэвалюцыянізаваньня сялянскіх мас ва ўсіх буржуазных краёх у пасьляваенны пэрыяд. Побач з рэвалюцыйным уздымам наглядаецца клясавае ўсьведамленьне сялянства і прыбліжэньне яго да саюзу з пралетарыятам. Вось чаму для буржуазіі пытаньне ўтрымаць сялянства пад сваім уплывам, каб адарваць ад саюзу з авангардам рэвалюцыі—пралетарыятам стала пытаньнем жыцьця. Дзеля таго буржуазія ідзе на некаторыя грашовыя ахвяры, каб узмацаваць кулака, як сваю апору ў вёсцы, каб ўцягнуць зруйнаванае сялянства ў рознага віду эканамічныя арганізацыі, у якіх арудуе капітал і праз якія лягчэй узалежніць сялянства ад сябе і трымаць яго пад сваім уплывам.

Фашысцкі ўрад, праводзячы абшарніцка-кулацкую аграрную палітыку, асабліва ўзмацніў крэдытаваньне сельскае гаспадаркі. Аб узросьце крэдыту які заблытвае сваёй сеткай сялянскія гаспадаркі, відаць з наступнага: асноўны капітал Зямельнага Банку ў Польшчы з 1925 году па 1927 г. павялічыўся ў 7 разоў, балянс узрос з 93 мільлёнаў злотых да 303 мільлёнаў злотых, крэдытаў-жа было выдадзена ў 60 разоў больш у 1927 годзе, чым у 1926 г.

Як у зямельнай, так і ў крэдытнай галіне палітыка фашыстаўскага ўраду адзначаецца ад палітыкі ўраду да майскага перавароту тым, што крэдыты ідуць ня толькі абшарнікам і асаднікам, але і беларускім кулакам, а таксама перападае частка верхавіне серадняцтва. Але крэдытная палітыка ўраду пабудавана так, што крэдыты для абшарнікаў, кулакоў і асаднікаў ідуць на ўзбагачэньне іх гаспадарчай сілы, для беднякоў-жа і асноўнай серадняцкай масы, пры нізкай прадукцыйнасьці іхнае дробнае гаспадаркі і высокіх процантах (да 30 проц.), крэдыты гэтыя яшчэ больш руйнуюць і закабаляюць.

У падатковай палітыцы фашыстаўскі ўрад, выходзячы з сваіх стабілізацыйных і ваенных плянаў і з прычыны росту замежных даўгоў, пастаянна павялічвае падатковыя цяжары працоўных мас, няшчадна спаганяе ўсе нядоімкі папярэдніх гадоў, робячы ў гэтым ільготы толькі для абшарнікаў.

Каб пасеяць ілюзіі аб зьмене курсу ў нацыянальнай палітыцы, фашыстаўскі ўрад дае нязначныя падачкі і абяцанкі ня толькі ў эканамічнай, але і ў нацыянальнай галіне. Па сутнасьці-ж праводзіцца яшчэ больш нахабная калёнізацыя шырокіх мас толькі значна хітрэй і больш замаскавана. Так, напрыклад, у тых некалькі адкрытых урадам школ, пад назвай беларускіх, навучаньне вядзецца ў духу польскай дзяржаўнасьці, варожым нацыянальна вызваленчаму руху.

Творачы і ўзмацняючы арганізацыі беларускіх згодніцкіх партый, урад побач з тым узмацняе нацыянальнае прыгнечаньне і жорсткім тэрарам душыць нацыянальна-вызваленчы рух (разгром і суд над Грамадой, прасьледваньне радыкальнай беларускай прэсы, арышт пасла Стагановіча і г. д.).

Фашызм імкнецца выкарыстаць усе спосабы, каб разлажыць, нанесьці ўдары, разьбіць нацыянальна-вызваленчы рух, у якім усё больш выпукляюцца клясавыя моманты, які ўсё больш прымае масавы магутны характар. Па меры ўзросту і паглыбленьня працэсу рэвалю-

цыянізаваньня асноўнай сялянскай масы, урад усё больш удаскanальвае і пахітрае мэтады падыходу да вёскі, усё больш і больш жорстка ўжывае белы тэрар, накіраваны на фізычнае вынішчэньне авангарду, рабочае клясы і працоўнага сялянства. Фашыстаўскі тэрар побач са ўсёю жорсткасьцю набывае больш утончаныя, рознавідныя формы. Селянін або ўся вёска, вядомыя мясцовай уладзе сваімі рэвалюцыйнымі пераконваньнямі, тэрарызуюцца і абрабоўваюцца пастаяннымі штрафамі, гмінными павіннасьцямі, праводзяцца начныя налёты, арышты ў гарачую летнюю пару і г. д.

Уся гэтая палітыка фашыстаўскага ўраду, палітыка жорсткага белага тэрару і ўступак, уступачак, падачак і абяцанак, палітыка хітрых фашыстаўскіх махінацый мае на мэце разлажыць, разьбіць рэвалюцыйны рух на Заходняй Беларусі, пашырыць базу свайго ўплыву, і, такім чынам, падрыхтаваць Зах. Беларусь як плацдарм ў будучай вайне супроць СССР.

Гэтая палітыка і частковая стабілізацыя капіталізму ў Польшчы прынесла значнае абагачэньне абшарнікам і кулацкай праслойцы вёскі ў Заходняй Беларусі, у гаспадарцы якіх адзначаецца некаторае павышэньне тэхнікі зямляробства, павялічэньне інтэнсіфікацыі.

Бядняк-жа і серадняк усё больш руйнуюцца і падпадаюць у залежнасьць да абшарніка і кулака. Кулацкая камасацыя, пазбаўленьне сэрвітутаў, дроў, праезды праз абшарніцкую зямлю, грабежныя крэдыты грашыма, зернем, купляньне лугоў на ўкосы і інш., за што селянін у большасьці выпадкаў адрабляе,—кідае сялянства ў кабалу абшарнікам і кулаком, ставіць вёску ў прыгонныя варункі, у варункі нячуванае эксплёатацыі. Бядняцкія гаспадаркі, а такіх вялізная большасьць, знаходзяцца ў глыбокай нэндзе і бязвыхадным становішчы, яны жывуць толькі паніжэньнем жыцьцёвага ўзроўню, адмовай ад задавольваньня мінімальных культурных патрэб і нячуваным напружаньнем катаржнай працы ўсяе сям'і. У сучасны момант больш за палову гаспадарак вёскі перабіваецца на наёмнай працы, падтрымоўвае сваё бытаваньне пабочнымі заробткамі. Частка бядняцтва з прычыны канчатковае руіны і нэндзы пакідаюць быць дробнымі вытворцамі адзінкі, робяцца сельскім пралетарыятам, а зямля іх пераходзіць у рукі кулакоў, у якіх яны знаходзяцца ў поўнай залежнасьці, а рэшта павялічваюць вялізную беспрацоўную армію вёскі, якая ня мае выхаду ні ў горад, ні ў эміграцыю.

Такім чынам, самым характэрным момантам для сучаснай вёскі Заходняй Беларусі зьяўляецца *працэс разьвіцьця капіталістычных адносін у вёсцы і ў зьвязку з гэтым паглыбленьне дыфэрэнцыяцыі.* Побач з узмацненьнем гаспадарчай эканамічнай сілы абшарнікаў, узбагачваньнем і ўзмацненьнем кулацтва і асадніцтва, да якіх цягнецца верхавінка заможнага серадняцтва, адбываецца драбленьне і памяншэньне ўдзельнае вагі асноўнай серадняцкай масы і сьпіханьне яе на становішча беднякоў, адбываецца паўпэрызацыя і пралетарызацыя шырокіх малазямельных і безьзямельных мас.

Палітычным выражэньнем гэтых працэсаў ёсьць тое, што беларускі кулак уваходзіць у фашыстаўскі лягер, частка беларускай інтэлігэнцыі ўцягваецца ў рэчышча фашыстаўскай палітыкі, і сярод некаторай часткі сялянства, пераважна серадняцтва, зьяўляюцца ілюзіі аб магчымасьці палепшаньня свайго становішча пры фашысцкай дыктатуры.

Такім чынам, на Зах. Беларусі, навакол фашыстаўскай дыктатуры Пілсудзкага, кансалідуюцца фашыстаўскія анты-савецкія контр-рэвалюцыйныя элемэнты, у лягер якіх уваходзяць капіталістыя, абшарнікі, асаднікі, кулакі і наогул верхавінныя пласты дробнай буржуазіі бяз

розьніцы ў нацыянальнасьці. З другога боку, узмацняецца рэвалюцыйны анты-фашыстаўскі рабоча-сялянскі блёк працоўных і эксплёатаваных усіх нацыянальнасьцяў, пад сьцягам камуністычнае партыі Заходняе Беларусі.

Беларускі кулак, які да гэтага часу больш наглядаў і гаварыў, а менш рабіў, цяпер выказвае актыўнасьць і пралазіць на палітычную арэну Зах. Беларусі. Ён ня толькі аброс салам, і ўжо сьмялей дзярэ сем скур з вясковае беднаты, але чуецца ў фашыстаўскім лягеры за панібрата з вяльможным панам, які—напуджаны рэвалюцыйным абкружэньнем асноўнай сялянскай масы—ахвотна даруе кулаку яго мужычае паходжаньне. З свайго боку беларускі кулак, чуючы, як у СССР стрыгуць кулакоў, гатоў душой і целам дапамагаць польскаму пану душыць „чырвоную заразу“. Аб палітычнай актыўнасьці кулака сьведчыць ажыўленьне яго партый, як Беларускі Сялянскі Саюз, Беларуская Хадэцыя, Беларуская Сялянская партыя і інш., сацыяльная база якіх, пасьля фашыстаўскага перавароту ў Польшчы, значна ўзмацнілася і нават крыху пашырылася. Апрача таго, гэтыя партыі маюць больш цьвёрдую і шчодрую апеку з боку ўраду, які з свайго боку патрабуе ад іх больш адданай і прадукцыйнай работы ў разгроме нацыянальна-рэвалюцыйнага руху.

* * *

Невялічкая кучка капіталістаў і абшарнікаў трымае ўладу ў сваіх руках і эксплёатуе шырокія працоўныя масы. З крыві і поту рабочых і сялян буржуазія праз паліцыю, войска, шпікоў, ксяндзоў і чыноўніцтва прыдабывае сабе багацьце і ўладу. Але пануючая кляса трымаецца ня толькі апіраючыся на ўзброеную сілу і дзяржаўны апарат. Усе вастрогі, міністэрствы і палацы, усе гнёзды, кучкі эксплёататараў разьляцеліся-б пылам, каб шматмільённыя масы рабочых і сялян былі клясава сьвядомы, каб у барацьбе супроць агульнага ворага—абшарнікаў і капіталістаў выступілі супольна, адліта, адным чырвоным фронтам, каб вызваленьне свайго з-пад ярма капіталу дамагаліся толькі рэвалюцыйным шляхам. Абстрэльваючы з усіх бакоў рэвалюцыйны рух, фашыстаўская дыктатура імкнецца ўсямерна ўзрываць, раскладваць яшчэ і знутры шэрагі барацьбітоў, усімі спосабамі стараецца разьбіць еднасьць рабочых і клясавую салідарнасьць рабочых і сялян і ня толькі разьбіць, але і супроцьпаставіць інтарэсы рабочых інтарэсам сялян, стараецца працоўных аднэй нацыянальнасьці натравіць на працоўных другой. Вось гэтую падрыўную і разьбіўную работу буржуазіі сярод працоўных мас старанна выконваюць беларускія згодніцкія дробна-буржуазныя партыі.

Быць апорай фашызму, актыўнымі памоцнікамі ў разгроме нацыянальна-вызваленчага руху і падрыхтоўкі да вайны, быць праваднікамі палітыкі ўраду, палітыкі ўціску і вызыску, усямерна недапускаць масы да рэвалюцыйнай барацьбы—вось роля гэтых агентаў буржуазіі. Згоднікі—гэта вораг замаскаваны, які падходзіць да мас ня пужаючы і пагражаючы, а ўгаварваючы і абяцаючы і скрыта куе здраду для працоўных на карысьць буржуазіі па загадзя абдуманаму пляну. Яны імкнуцца праграму і мэты пануючай клясы дапасоўваць да псыхалёгіі працоўных. Яны гэтую праграму так сфабрыкуюць, так здобраць дэмагогіяй і ашуканствам, што несьвядомая маса не заўсёды распазнае і часамі прыймае яе як сваю. Сваёй прадажнай і здрадніцкай працай згоднікі дэзарыентуюць працоўных, затуманьваюць клясавую ідэалёгію, разьбіваюць еднасьць, маральна разбройваюць і абясьсільваюць працоўныя масы, разьбіваюць іх палітычныя, эканамічныя і

культурна-асьветныя арганізацыі. Згоднікі дэмагогіяй, абяцанкамі, фальшывай апазыцыяй да ўраду хочуць завабіць працоўныя масы ў сваю пастку для вызыску буржуазіі. У рэчавістасьці і выходзіць, што згодніцкія партыі, прыкідаючыся прыяцелямі працоўных мас, праводзяць тую-ж самую руйнуючую работу, якую штыхом і нагайкай, паліцыяй і войскам праводзіць фашыстаўская дыктатура. У першых і ў другіх адна мэта: працай рабочых і сялян ўзмоцніць уладу капіталу, забясьпечыць бесьперабойную эксплёатацыю і панаваньне над працоўнымі масамі.

Найстарэйшаю з гэтых служак буржуазіі на Зах. Беларусі зьяўляецца *Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя.* БХД ідэалёгічна вырастае як і ХД іншых нацыянальнасьцяў з вядомай энцыклікі (духоўная грамата) рымскага папы, якая дазваляе духавенству арганізаваць масы ў палітычныя партыі на аснове хрысьціянска-дэмакратычных прынцыпаў. У гэтым выпадку заслуга сьвятога папы перад пануючай клясай тая, што ён прыстасаваў ролю касьцёла да новых часоў з большай рэвалюцыйнай сьвядомасьцю шырокіх мас, прыдаўшы гэтай ролі апрача рэлігійнага дурману яшчэ і палітычнае ашуканства, каб такім чынам дапамагчы буржуазіі трымаць у пакоры і паслухмянасьці эксплёатаваныя і прыгнечаныя масы.

Асновапаложнікі беларускай ХД—беларускія ксяндзы ў большасьці сваёй прымалі ўдзел у арганізацыях польскай хадэцыі. Але нацыянальнае прабуджэньне беларускага народу і яго вызваленчая барацьба, ажыўленьне ўсіх палітычных беларускіх груповак пасьля рэвалюцыі 1917 г. у Расіі падбухторвае беларускіх ксяндзоў заснаваць хрысьціянскую дэмакратыю на „родным грунце“.

І-шы Зьезд БХД адбыўся ў Петраградзе, дзе і была заснавана іхная арганізацыя пад назвай „Злучнасьць“. Пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі Петраградзкае гняздо беларускіх ксяндзоў распарушваецца і яны пераносяць сваю сядзібу ў Менск, акупаваны ў той час праз палякаў. Тут у 1918 г. засноўваюць арганізацыю БХД, уносячы новыя моманты ў статут. Петраградзкая арганізацыя, яшчэ ня зусім фармальна парваўшая з польскай хадэцыяй, яднала толькі беларусаў-католікаў, тады, як менская дае доступ у арганізацыю ўсім хрысьціянам-беларусам. Маючы назначэньне падтрымоўваць новую акупацыйную ўладу сярод беларусаў, шляхам барацьбы „з бальшавіцкім недаверствам“ БХД, папаўшы ў Менск, у асяродак Беларусі, насельніцтва якой добрая палова праваслаўнага, лічыла патрэбным пайсьці на гэтыя зьмены ў сваім статуце.

Хоць беларуская і польская хадэцыя з аднаго поля ягады, хоць і тыя і другія агенты буржуазіі, аднак іх палітычнае аблічча, іх тактыка розныя. І тая і другая зьяўляюцца контр-рэвалюцыйнымі арганізацыямі, якія маняцца „завесьці на сьвеце лад на аснове хрысьціянскай і дэмакратычнай справядлівасьці“, аднак кожная з іх пасвойму прыстасоўваецца да канкрэтнага палажэньня роднай буржуазіі і дамаганьняў працоўных мас, кожная мае свае спосабы барацьбы супроць рэвалюцыі, супроць камунізму. Абедзьве яны бароняць інтарэсы заможнае клясы, аднак, кожная з іх на свой манер ачмучвае масы ілжывай барацьбой з буржуазіяй.

Дзеля таго, што ў беларускай нацыі вельмі нязначны слой верхавіны дробнай буржуазіі, ня кажучы ўжо пра беларускую буржуазію, і вялікі рэвалюцыйны ўздым шырокіх мас—беларуская хадэцыя і сваю праграму хоць і „будуе на аснове тэорыі і практыкі ХД цэлага сьвету, але надае ёй *больш левы характэр*“ (падкрэсьлена ў арыгінале праграмы 1918 г.). У той час, як польская хадэцыя ў сваёй праграме

1919 г. у зямельным пытаньні стаіць за правядзеньне буржуазнай зямельнай рэформы і змагаецца супроць надужыцьця капіталу, беларуская хадэцыя дамагаецца падзелу дзяржаўнай зямлі паміж безьзямельнымі і малазямельнымі „з мэтай стварэньня малой уласнасьці“ і „першна-перш змагаецца супроць капіталізму, у якім бачыць адну з найважнейшых прычын нэндзы і нядолі працоўных мас“. Далей праграма БХД прызнае рэлігію за „найгалоўнейшую падставу людзкога існаваньня“ і „жадае справядлівага права, якое ўстановіць Міністэрства Працы для працоўнага народу“, а таксама дамагаецца паміж іншым і „максімум гадзін працы“. Апрача гэтай хадэцкай справядлівасьці БХД „жадае для Беларусі непадзельнасьці і вольнасьці“. Усе гэтыя жаданьні павінны быць праведзены ў жыцьцё „эвалюцыйным шляхам“. Побач з узмацаваньнем капіталізму ў Польшчы, у зьвязку з яго часовай стабілізацыяй наглядаецца зварот праграмы польскай хадэцыі ў правы бок, праграма-ж беларускай хадэцыі, па меры рэвалюцыянізаваньня мас, набывае „больш левы характар“.

Прагнаная Чырвонай арміяй з Менску ў 1920 г. разам з легіёнамі Пілсудзкага БХД перабіраецца ў Вільню.

Праходзіць некалькі гадоў абшарніцка-капіталістычнай акупацыі, шырокія працоўныя масы пад кіраўніцтвам кампартыі праходзяць рэвалюцыйную школу, дамаганьні мас шырэйшыя і больш рашучыя, растуць сымпатыі да Савецкай Беларусі, разьвейваецца рэлігійны туман, і вось беларуская хадэцыя, як хамэльён, зьмяняе ахварбоўку. У яе праграме ўжо гучаць такія лёзунгі, як зямля бяз выкупу. БХД хітра замоўчвае аб эвалюцыйным шляху, рэлігійныя пастуляты даюць месца нацыяльна-палітычным, абвяшчаецца, зразумела, бутафорская барацьба абшарнікам, капіталістам і асаднікам. Іх газэтка „Крыніца“ свой падзагаловак „Каталіцкая газэта“ замяняе на „Сялянская газэта“ і частуе дэмагогіяй, згодніцтвам і беларускім нацыяналізмам сваіх чытачоў. Тая-ж „Крыніца“ ня раз зьмяшчала заваёвы ў культурнай галіне рабочых і сялян Савецкай Беларусі і толькі часамі далікатна лаяла бальшавікоў за бязбожнасьць і недаверства.

Прыбліжэньне і зрастаньне беларускага кулака з польскай буржуазіяй, якое пачалося яшчэ пры тугутаўскіх рэформах і закончылася і аформілася пасьля майскага перавароту, выклікае дазолі значнае ажыўленьне БХД, галоўная база якое—гэта кулацкая праслойка беларускай вёскі, асабліва каталіцкай. БХД праяўляе актыўнасьць, з мэтай прабіцца ў масы, прыймае больш актыўны ўдзел у палітычным жыцьці Зах. Беларусі. Яна склікае канфэрэнцыю, выпрацоўвае праграму, адчыняе сваю друкарню, засноўвае культурна гаспадарчую арганізацыю Інстытут Беларускай Культуры і Гаспадаркі. У новай праграме больш дэмагогіі і значны палітычны ўхіл, высоўваюцца сацыяльныя моманты і слова „БХД жадае“ замяняюцца на „БХД дамагаецца“.

БХД не належыць да тых сялянскіх партый, якія імкнуцца бараніць інтарэсы ўсяго сялянства ў цэлым, ставяць гэтыя інтарэсы ў аснову свае палітычнае дзейнасьці, але дзякуючы расплastаваньню сялянства зьбіваюцца то на бок буржуазіі, то становяцца на пралетарскі пункт гледжаньня, залежна ад таго, у абароне якога пласта сялянства становяцца. БХД стаіць сьвядома за інтарэсы кулака і верхавіны серадняцтва і па сваёй праграме і тактыцы зьяўляецца згодніцкай, контррэвалюцыйнай дробнабуржуазнай партыяй.

У праграме БХД, якая заве сябе сялянскай партыяй, найбольш цікавяць нас яе адносіны да аграрнага пытаньня.

34. Усе землі (дворныя, касьцельныя, царкоўныя і іншыя), перавышаючыя працоўную норму, перадаюцца на ўласнасьць

і бяз выкупу безьзямельным і малазямельным сялянам (праграма БХД).

Гэтым лёзунгам—зямля бяз выкупу—БХД карыстаецца не дзеля барацьбы за зямлю. Мірнае выседжваньне праз гады на дэпутацкіх крэслах у сойме побач з буржуазнай большасьцю, пісаць папяровыя пратэсты, падымаць рэклямны шум з пасольскай трыбуны—вось шлях хадэцкай „барацьбы". Лёзунгам зямля бяз выкупу БХД карыстаецца на выбарах у сойм і гмінныя рады, на пасольскіх мітынгах, у барацьбе з Грамадой, камуністамі і рэвалюцыйным рухам, карыстаецца ўсюды там, дзе БХД мае дачыненьне з рэвалюцыйна-настроенымі масамі. Гэты лёзунг зьяўляецца галоўным каньком беларускіх ксяндзоў у ачмучваньні сялянскіх мас, якія побач з дварамі панскіх паноў і вайсковых асад душацца ад безьзямельля. Зразумела, што там, дзе ўплыў кампартыі недастатковы, БХД удаецца часамі выяжджаць на гэтым каньку. А заехаўшы ў сойм, прадстаўнікі БХД падтрымоўваюць усялякія так званыя рэформы ўраду і калі часам упінаюцца, дык толькі дзеля таго, каб больш вытаргаваць падачак.

Трэба яшчэ адзначыць, што ў гэтым параграфе праграмы ёсьць перадача зямлі на „ўласьнасьць". БХД наогул стаіць гарой за прыватную ўласьнасьць, якая „ёсьць падставай цывілізацыйнага поступу грамадзянства" і якая зьяўляецца грунтоўным прынцыпам праграмы БХД. „Калі спытаць—піша „Крыніца"—простага, але разумнага чалавека, чыё гэта ўсё будзе, што мы бачым?—дык падумаўшы ён нам ніколі не адкажа—маё, але адкажа: божае. Чалавек карыстаецца з тых рэчаў, якія яму бог даў". Значыць багацьце абшарніка і капіталіста ня руш, бо гэта дабро дадзена ім богам.

У другім наступным пункце праграмы ідзе тлумачэньне, што значыць па хадэцку працоўная норма.

> 35. Працоўную норму зямлі становіць такі лік дзесяцін, які гаспадар можа зрабіць сам са сваёй сям'ёй, або пры помачы аднаго ці двух наймітоў.

Вось тут і вылезла кулацкая сутнасьць, бо пры такой „працоўнай норме" можна мець гэктараў 60—80 зямлі. Далей БХД „змагаецца за гаспадарку хутарную", што значыць за правядзеньне камасацыі, якая ідзе выключна ў інтарэсах кулакоў. Пры камасацыі кулацкі элемэнт вёскі ня толькі мае падтрыманьне ад мясцовай ўлады, але подкупам зямлямераў адрэзвае сабе лепшыя вучасткі зямлі, атрымоўвае крэдыты на будоўлю, калодзежы і г. д. А бядняцкія і серадняцкія масы астаюцца бяз пашы, на пустырох і бяз будынкаў, бо пры пераносе руйнуецца і тое, што неяк ліпела на адным месцы.

„БХД стаіць за справядлівыя цэны на прадукты сялянскія і фабрычныя". Але як нармаваць гэтыя цэны і як дапасаваць гэтую „справядлівасьць" да бедняка і абшарніка адначасна БХД паезуіцку замоўчвае, каб у патрэбны момант па сваёй хрысьціянскай справядлівасьці тлумачыць гэта як ёй выгадней.

Да нацыянальнага пытаньня, якое займае адно з першарадных месц у нацыянальна-вызваленчай барацьбе, БХД таксама падыходзіць дэмагагічна з антыпралетарскай устаноўкай.

> 1. БХД імкнецца да самастойнасьці беларускага народу на ўсіх яго землях, аб'яднаных у незалежную дэмакратычную Рэспубліку.

Што ў т. зв. дэмакратычнай рэспубліцы незалежна і самастойна жывуць толькі заможныя клясы, гэта БХД добра ведае хоць-бы на прыкладах новапаўстаўшых „незалежных" Польшчы і Літвы. Аднак,

жывучы ў краі, раздаўленым польскім ботам, жывучы побач з БССР, дзе працоўныя дабіліся сапраўднай незалежнасьці, БХД, асабліва з пераходам кулака ў лягер буржуазіі, падняла крыжовы паход супроць Савецкай Беларусі. Спэкулючы на нацыянальным прыгнечаньні і іграючы на нацыянальных настроях мас Зах. Беларусі, ХД вельмі часта выдае свой хліплівы тон па незалежнай Беларусі, але пальцам у боце не кране, каб дамагчыся гэтай незалежнасьці. Прадстаўляючы перад масамі гэтую незалежнасьць, як міф, як салодкія лятуценьні побач са сваёй антысавецкай і антыкамуністычнай палітыкай, БХД гэтым адцягвае масы ад барацьбы за нацыянальнае вызваленьне, а таксама прыкрывае імпэрыялістычныя пляны ваяўнічага польскага фашызму і спрыяе яго нападу на БССР.

Прыймаючы пад увагу папулярнасьць сярод працоўнага сялянства Зах. Беларусі лёзунгу саюзу рабочых і сялян, БХД прыкідаецца абаронцам інтарэсаў рабочых і вызначае ў праграме месца і рабочым справам, гэта значыць: „8-мі гадзінны дзень працы, права забастовак, дзяржаўнае страхаваньне, забарона працы дзяцей і іншае“. Аднак у праграмным артыкуле „Беларускай Крыніцы“ знаходзім нешта зусім іншае: „Мы як сялянскія сыны будзем ісьці па чыста сялянскай праграме, адкідаючы ўсе праявы фальшаваньня гэтае праграмы“.

Пытаньне аб рэлігіі і касьцёле таксама дапасована да настрою мас. На Зах. Беларусі ксёндз нараўне з паліцыянтам і абшарнікам лічыцца тым-жа жывадзёрам і акупантам, каталіцкая рэлігія—гэта панская польская рэлігія. Дзеля таго БХД падходзіць крытычна да польскага касьцёлу, які па іхнаму страціў хрысьціянскую сутнасьць і стаў у руках паноў інструмэнтам уціску і вызыску.

> Цяпер выходзіць так, што чым большы абшарнік, тым большы „хрысьціянін“, а чым большы капіталіст, тым большы „хрысьціянскі“ дэмакрат (як, напрыклад, П. Корфанты). Дзеля таго мы відзім, як хрысьціянізм, прыстасаваны да палітычных мэтаў і клясавых інтарэсаў багачоў, губляе свой аўтарытэт у вачох працоўных. Такім парадкам хрысьціянскі сьцяг робіцца сацыяльным сьцягам абшарніцтва і капіталу. А пад такі сьцяг у сваёй палітычнай дзейнасьці мы ісьці ня хочам. (Бел. Крыніца).

Замест польскага хрысьціянізму БХД прапануе свой новы беларускі хрысьціянізм, а навізна яго ў тым, каб у касьцёлах пяялі і маліліся па-беларуску, каб ксёндз быў беларус, бо гэта больш угодна богу, бо гэтага патрабуе беларуская душа. Беларускія ксяндзы „раскоўваюць наш народ з тых путаў, у якія закаваў яго польскі касьцельны нацыяналізм“. Змагаючыся за гэтую „чыстую ідэю хрысьціянізма“ БХД узьдзявае новыя путы, шмат мацнейшыя, бо больш замаскаваныя ў радыкалізм і нацыяналізм.

Але ёсьць і другія прычыны, больш грунтоўныя—гэта канкурэнцыйнае змаганьне з польскім клерам за абрабаваньне мас цераз рэлігію, аб чым выразна сказана ў тэй-жа „Крыніцы“ ў артыкуле „Слова да нашага духавенства“.

> ... бо цягнуць да свайго народу тое, да чаго ён ня мае права, прысвойваць для свайго народу тое, што належа да другога народу, да другой часткі людзкасьці—о, такая праца гэта шовінізм, гэта ганьба.

і дзеля таго

> 27. БХД у межах кананічнага права ў жыцьці касьцельным (царкоўным) на беларускіх землях змагаецца за поўныя правы беларускае мовы (праграма БДХ).

Спэкуляцыяй на нацыянальным уціску і толеранцыяй да праваслаўя беларускім хадэкам удаецца здабываць некаторы посьпех сярод каталіцкіх мас. Аб гэтым сьведчаць падзеі ў м. Жодзішках (Сьвянцяншчына). Ксёндз тамтэйшай парафіі Гадлеўскі — беларус увёў у касьцёле беларускую мову і гэтым падняў супроць сябе мясцовую шляхту. У касьцёле адбываліся спрэчкі, скандалы на грунце ўжываньня мовы. Аднаго разу дайшло да таго, што паліцыя прышла ўзброеная з кулямётам. Гадлеўскі быў пасаджан у турму ў Вільны, куды прыходзілі тысячамі жодзіцкія сяляне, ня гледзячы на значную адлегласьць, прыходзілі ў Вільню прасіць у біскупа звальненьня іх ксяндза. Таксама выбары ў гэты сойм, куды прайшло трох кандыдатаў ад БХД, сьведчаць аб некаторым уплыве БХД сярод каталіцкіх сялянскіх мас.

У праграме знаходзім яшчэ шмат карысных пажаданьняў, як:

5. БХД уважае, што гмінныя, павятовыя і ваяводзкія самаўрады ў сваіх мясцовых справах павінны быць незалежнымі ад цэнтральных уладаў.

9. БХД змагаецца з палітыкай мілітарызму і імкнецца да замены сталай арміі народнай міліцыяй.

19. Пачатковае навучаньне абавязковае для ўсіх, бясплатнае і ў роднай мове вучняў.

44. Лясы, воды, падземныя багацьці і іншыя праз увагу на сваю аграніčанасьць і агульна-грамадзкае значэньне становяць уласнасьць самаўрадаў.

48. Мерай падаткаў павінен быць даход грамадзян, дзеля гэтага хто больш мае даходу, той больш і плаціць падаткаў.

49. Усе падаткі пасярэднія (укосныя), як на соль, газу, цукер і іншае павінны быць скасаваны.

Але якая цана ўсім гэтым „пажаданьням“ для працоўных мас відаць з наступнага параграфу праграмы:

4. БХД да сваіх мэтаў ідзе дарогай арганізаваньня, усьведамленьня і ўзгадоўваньня беларускага сялянства, работнікаў і інтэлігенцыі на грунце хрысьціянска-дэмакратычных ідэалаў і беларускай народнай культуры.

Зразумела, што, пайшоўшы за гэтымі хрысьціянска-дэмакратычнымі ідэаламі, працоўныя масы падпадуць пад яшчэ большае прыгнечаньне і вызыск, а гэта і ёсьць сапраўдная мэта і сутнасьць праграмы БХД.

БХД побач з рэлігійнай прапагандай вельмі шырака паслугоўваецца нацыяналізмам і нацыянальным антаганізмам, што ідзе на руку фашыстаўскай дыктатуры, бо разьбівае еднасьць барацьбы працоўных мас, адцягвае гэтыя масы з рэвалюцыйнага шляху на шлях згоды.

Сьцяг нацыянальны адзін патрапіць згуртаваць усенькіх дзяцей нашае зямелькі. Ён адзін збудзіць тых, што сьпяць дагэтуль у дрэмоце векавой, ён клікне вярнуцца назад усіх, што заблудзіліся пасьля доўгага сну і пашлі да чужога народу (з газэты „Белар. Крыніца“).

Побач з паглыбленьнем расслаеньня на заходня-беларускай вёсцы яшчэ больш распальваецца клясавая барацьба, з большай сілай высоўваюцца сацыяльныя дамаганьні ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе, усё больш барацьба пераходзіць на шлях пралетарскай рэвалюцыі. Для згоднікаў-жа рэвалюцыя да сьмерці падобна і вось яны кідаюцца тушыць клясавую барацьбу на вёсцы галоўным чынам пры дапамозе

лёзунгу адзінага нацыянальнага фронту. Барацьбой за адзінства нацыянальных інтарэсаў усяго беларускага народу яны імкнуцца падмяніць клясавую барацьбу супроць абшарнікаў, капіталістаў і іх фашыстаўскай дыктатуры.

Вось як „Крыніца" заклікамі роспачы хоча ратаваць дом буржуазіі, які гарыць рэвалюцыйным агнём:

> Годзе нам сварыцца! Адкінем на бок партыйныя амбіцыі! Годзе марнаваць сілы на хатнюю сварку. Годзе дзяліцца! Яшчэ мы нічога ня прыдбалі для нашае гаспадаркі, а ўжо бярэмся дзяліцца.

Палітычная актывізацыя беларускага кулацтва выяўляецца ў першую чаргу беларускім нацыяналізмам, які часамі знаходзіць грунт сярод мас вёскі, прыдушанай нацыянальным і сацыяльным уціскам. У апошнія часы праявы нацыяналізму даюцца заўважыць у грамадзка-палітычным жыцьці Зах. Беларусі. Канкрэтна гэта выявілася ў хістаньнях па нацыянальнай лініі ў беларускім радыкальным руху. З тым большай сілай намагаюць беларускія згоднікі на „нацыянальнае адзінства", распальваючы пры гэтым нацыянальны антаганізм, каб разьбіць адзінства барацьбы працоўных мас усіх нацыянальнасьцяў Польшчы супроць фашыстаўскай дыктатуры.

> Беларускі народ пераканаўся, што проціў яго ня толькі польская ўлада, адміністрацыя, але і польскае грамадзянства, нават увесь польскі народ.
>
> Хто скажа, што гэтае пераконаньне на адпавядае праўдзе? Ці ёсьць хоць адна польская група, што шчыра дамагалася-б беларусам належных ім людзкіх і народных правоў, хоць-бы нават такіх, якія маюць чорнаскурыя ў ангельскіх калёніях? Няма такой групы, якая-б гэтага дабівалася-б.
>
> Ня толькі няма здарэньня, паказуючага, што хоць частка польскага грамадзянства не згаджаецца з польскім урадам, але наадварот, кожны дзень нам прыносіць весьці, што польскае грамадзянства ня хоча адставаць ад польскага ўраду.

У акупацыі Зах. Беларусі праз польскую буржуазію БХД абвінавачвае ўвесь польскі народ, а значыць і польскую рабочую клясу—авангард і кіраўніка рэвалюцыі ў Польшчы. Тое-ж самае робіць БХД і ў адносінах да яўрэйскага народу. Каншахты і згодніцтва яўрэйскіх купцоў і капіталістаў з польскай буржуазіяй „Крыніца" прыпісвае і працоўным яўрэйскім масам.

> Яны (яўрэі—А. С.) пашлі на ўмову (нават часткова патайную) з палякамі, на ўмову скіраваную выразна проціў беларускага народу. Гэтыя ўмовы сапраўды ня можна інакш назваць, як польска-жыдоўскай змовай проціў беларусаў і ўкраінцаў.
>
> Якое жыды маюць права на беларускія землі? Ці за тое, што стагодзьдзямі жылі з беларускага народу, яны маюць гэтым народам цяпер гандляваць? Жыды жывуць з беларускага народу, але спрыяць абавязаліся польскаму ўраду і палітыцы, што скіравана проціў беларускага народу.
>
> Мы павінны абыйсьціся без жыдоў, патрапіць жыць і так, як-бы жыдоў на Беларусі зусім ня было.

Такім антысэмітызмам не зганьбавалі-б ні расейская царская чорная сотня, ні польскія шавіністыя.

Характэрным для дробна-буржуазнага нутра БХД зьяўляюцца і яе погляды на ролю інтэлігенцыі ў барацьбе за „лепшую долю“.

Трэба перад усім зразумець, што цьвёрдае і сыстэматычнае змаганьне можа вясьці толькі інтэлігенцкая сіла. Гэтая сіла ня будзе той масай, якая па інэрцыі ідзе ў невядомым ёй кірунку, але будзе сілай даючай рух і кіруючай гэтым рухам. Змаганьне тады пойдзе цьвёрдым абдуманым шляхам. Значыць там будзе перамога, дзе будзе болей інтэлігенцкіх сіл. Іншымі славамі тая беларуская партыя будзе найлепш змагацца за лепшую долю свайго народу, якая будзе мець болей народнай інтэлігенцыі.

У зьвязку з часовай стабілізацыяй у Польшчы ў часткі беларускай інтэлігенцыі і ў больш адсталых пластах працоўных мас, побач з утратай рэвалюцыйнай пэрспэктывы, распаўсюджваюцца ілюзіі аб магчымасьці разьвіцьця роднай культуры, аб магчымасьці творчай працы пры капіталістычным ладзе. З другога боку, рост самастойнай палітычнай барацьбы працоўных мас, барацьбы, якая пры Грамадзе набывае пагрозныя памеры, наганяе перапуд на БХД, якая б'е на алярм, што палітыка загубіць „бацькаўшчыну“ і адзіны выратунак з гэтага пагібельнага становішча бачыць у культурнай рабоце. Значыцца, няхай біруць—дзяруць падаткі, штрафы, няхай б'юць па дыфэнзывах і садзяць у вастрогі, няхай у жываце грае галодны марш, а ты, селянін, плюнь на ўсё гэта і вучы лемантар у імя збаўленьня бацькаўшчыны.

Палітыка апіраецца на культуры, як дом на фундамэнце. Дык да культурнай работы дзеячы! Робячы культурную работу, вы будзеце будаваць моцны фундамэнт пад палітычныя асновы нашай бацькаўшчыны—Беларусі.

Назад да культурнай творчай працы, бо беларуская палітыка аперадзіла беларускую культуру,—вось лёзунг БХД да працоўных мас, якія сталі на шлях вызваленчай барацьбы і арганізаваліся ў палітычную партыю Бел. Сял.-Рабочая Грамада.

Грамада павінна выкарыстаць усе свае ўплывы і ўвесь свой партыйны апарат на карысьць беларускай культуры, а перад усім беларускай школы, гурткі павінны закідаць усе польскія школьныя інспэктараты дэклярацыямі, жадаючымі беларускай школы. Бяз гэтага дзейнасьць Грамады была-б дужа аднастароннае і праўда кажучы ня трывалае. Бо палітыка—гэта вецер, а нават бура, а культура гэта будзе моцная скала.

Гэтая культурніцкая ўстаноўка БХД ва ўмовах Зах. Беларусі набірае контр-рэвалюцыйнага зьместу, бо адцягвае масы ад барацьбы за сваё вызваленьне, за рабоча-сялянскую савецкую ўладу, пры якой толькі магчыма свабоднае разьвіцьцё роднай культуры.

БХД мае вялікае дасягненьне і ў галіне дэмагогіі. Сваю выбражальную паказную апазыцыю да ўраду БХД падмацоўвае дэмагогіяй ня толькі ў сацыяльных дамаганьнях працоўных мас (зямля бяз выкупу), але і ў палітычных пытаньнях. Лідэр БХД кс. Станкевіч з соймавай трыбуны ўмее так выслаўляцца.

Факт застаецца фактам, што жыцьцё беларускага народу ў Радавай Беларусі з месца зрушана, што школы беларускія лічацца на тысячы. Магу паном паказаць цэлыя кучы радавых беларускіх выданьняў. Можаце, панове, туды самі зьезьдзіць і паглядзець, або спытайцеся тых калегаў, якія езьдзілі. Наогул я дзіўлюся, што вы ня хочаца чорнага назваць чорным, а белага белым.

і далей.

> Праўду кажучы, ніколі вялікае вагі рэвалюцыі не прыдаваў і ў выніку рэвалюцыі на далейшую мэту ня верыў і ня веру.
>
> Але дзеля таго, што рэвалюцыя дае часам аздараўленьне грамадзянскаму анархізму і неякія пэрспэктывы на будучае, дык хоць гэтым пацешаю сабе і ў гэтым бачу частку ратунку для свайго народу.

Вось да чаго нават ксяндзоўская сутана можа дагаварыцца, калі гэта патрэбна для ачмучваньня мас, калі гэтага патрабуюць інтарэсы заможнае клясы.

Беларуская хадэцыя адыгрывала і адыгрывае выдатную контр-рэвалюцыйную ролю ў разгроме праз фашыстаўскі ўрад нацыянальна-вызваленчага руху на Зах. Беларусі. У часе росту Грамады БХД сваімі сыстэматычнымі правакацыйнымі даносамі на Грамаду давала повад для разгрому гэтае арганізацыі, давала апраўданьне тым масавым катаржным прысудам фашыстаўскага суду над лепшымі барацьбітамі за вызваленьне Зах. Беларусі.

Аднак, што найбольш выяўляе контр-рэвалюцыйны характар БХД, гэта яе сапраўдная барацьба супроць камунізму і траўля БССР. Выяўляючы інтарэсы беларускага кулака, БХД з асьцервяненьнем выступае супроць савецкай улады, якая асабліва ў апошнія часы ўзмоцніла націск на нэпманскія і кулацкія элемэнты. У сваёй газэце „Крыніца“ беларускія хадэкі не прамінуць ніводнага нумару, дзе-б не зьмясьцілі буржуазную хлусьню і паклёп на СССР і ЎсеКП. Апрача таго зьмяшчаюцца цэлыя артыкулы, прысьвечаныя пераразджэньню камунізму, нацыянальнаму ўціску ў Савецкай Беларусі з тлумачэньнем, што эканамічны ўздым СССР зьяўляецца вынікам звароту да капіталізму і т. п. буржуазная лухта.

> Цяпер на той бок граніцы (БССР—А. С.) сяляне адносяцца да камуністаў крытычна. На той бок граніцы бальшавіцкі рэжым не дазваляе сялянству шукаць выхаду з труднага палажэньня. Там верныя „шуканьні“ вельмі строга караюцца. Тутака (у Польшчы—А. С.) шукаць выхаду можна.

Аддаўшыся хадэцкай філёзофіі аб тым, што перш павінна быць нацыянальная рэвалюцыя, нацыянальнае вызваленьне, а пасьля сацыяльная эвалюцыя, клясавае вызваленьне,—„Крыніца“ крыўдуе на рэвалюцыянераў, якія думаюць і робяць наадварот і якія зьяўляюцца прычынай, чаму Зах. Беларусь перажывае такую мучаніцкую нацыянальную „эвалюцыю“ пад Польшчай.

> У тэй-жа Расеі да сягоняшняга дня праводзіцца таксама „эвалюцыя“ ў нацыянальным пытаньні. Таксама праводзіцца „беларусізацыя“ і „украінізацыя“, як і ў нас пад Польшчай, таксама шчырых працаўнікоў, якія сапраўды хацелі-б унесьці рэвалюцыю ў нацыянальнае жыцьцё і вызваліць паднявольныя народы з маскоўскай няволі—абʻяўляюць ворагамі „рэвалюцыі“.

Каб падарваць рост уплываў кампартыі ў Зах. Беларусі, беларуская хадэцыя разьвівае тэорыю аб крызісе і расколе камунізму, аб існаваньні нейкага камунізму сацыяльнага і палітычнага, а ў Зах. Беларусі—аб камунізьме „прававерным маскоўскім“, беларускім і грамадаўскім. Словам, у гэтых адносінах „Крыніца“ нічым не астаецца ад усіх польскіх буржуазных газэт і заслуга ўсіх тых аднолькава перад польскім фашызмам і імпэрыялізмам.

*(Канец у наступным нумары).*

Ю. Браткоўскі

# Шляхамі нацыяналізму, апартунізму і здрады[1])

*(Разлом у КПЗУ)*

## Сацыялістычнае будаўніцтва ў УССР

Рабочыя і сяляне Зах. Украіны прагналі ўжо прэч не аднаго рэнегата вызваленчай барацьбы. Калі Паўла Васільчук сваймі пятлюраўскімі выступленьнямі выявіў сваё сапраўднае аблічча, ад таго часу зьніклі ў непаваротнае мінулае рэшткі яго ўплыву сярод украінскіх працоўных мас. Цяпер разам з сваім братам Антонам, ён імкнецца стаць паразытам на целе працоўнага люду, шукаючы падпоры ў завулках польскага фашызму.

За Васільчуком пайшоў і Васількоў. Мала часу яму давялося чакаць адказу пралетарыяту Зах. Украіны. *Сто шэсьць* галасоў, сабраных з вялікай патугай сярод львоўскага нацыяналістычнага дробнага мяшчанства сьпісам Крыліка і Каляцінскага, гэта гучная і ганебная аплявуха па твары, дадзеная львоўскім пралетарыятам гэтым нацыяналістычным рэнегатам. Рабочыя і сяляне Зах. Украіны аднолькова гоняць прэч і Васількова і Васільчука, бо ведаюць, што яны, арудуючы ганебнай брахнёй і нікчэмнымі паклёпамі, пашыраюць бязглуздыя байкі пра Савецкую Украіну. Рабочыя і сяляне Зах. Украіны добра ведаюць, што ў УССР працоўныя масы супольнымі патугамі будуюць сацыялізм, твораць і разьвіваюць украінскую сацыялістычную культуру. Рабочыя і сяляне Зах. Украіны ведаюць, што ўсе свае дасягненьні працоўнымі масамі УССР здабыты дзякуючы дыктатуры пралетарыяту і кіраўніцтву УсеКП і КП(б)У.

Як-жа ў сьвятле фактаў выглядаюць паклёпы нацыяналістычных рэнегатаў?

У зьвязку з 10-годзьдзем бальшавіцкай рэвалюцыі, з розных краін усяго сьвету ў СССР і УССР прыехалі соткі і тысячы дэлегатаў ад рабочых і сялянскіх арганізацый. Усе яны сьцвердзілі вялічэзныя дасягненьні рабоча-сялянскай дзяржавы ў самых разнастайных галінах. Першая польская рабочая дэлегацыя, пабываўшы на Савецкай Украіне, агаласіла дэклярацыю, дзе, між іншым, чытаем: „Мы бачылі ваша плянавае будаўніцтва; мы пераканаліся, што скрозь, побач з узростам прадукцыйнасьці і прыбытковасьці працы рабочага, стала ўзрастае яго заработная плата; бачылі, як, дзякуючы тэхнічнаму і арганізацыйнаму поступу, памалу, затое ўвесь час павялічваецца вартасьць прадукцыі; як крок за крокам—працілегла капіталістычным дзяржавам—уздымаецца жыцьцёвы ўзровень і дабрабыт працоўных мас".

А вось некаторыя лічбы: яны сьведчаць, што зробленыя першай польскай рабочай дэлегацыяй назіраньні, зьяўляюцца літаральнай праўдай. У 1926-27 г. прамысловая прадукцыя УССР уяўляла ўжо 112,5%

[1]) Працяг. Гл. № 9.

даваенных норм. У 1925-26 г. прадукцыя сельскай гаспадаркі ў УССР узрасла супроць папярэдняга году на 20%, а прамысловая прадукцыя—на 45%. Калі гутарка ідзе аб прамысловасьці, дык у першую чаргу кідаецца ў вочы шпаркі поступ цяжкой прамысловасьці. Вытворчасьць прадукцыі прадпрыемстваў дала ў 1926-27 г. супроць 1925-26 г.—узрост на 24 проц., а прадукцыя спажывецкіх прадпрыемстваў за той самы час узрасла на 13 проц.

Прадукцыя каменнага вугалю ўзрасла ў 1926-27 г. супроць 1925-1926 г. на 25 проц. Прадукцыя жалезнай руды—на 46 проц., прадукцыя сельска-гаспадарчых машын—на 23 проц. і г. д. Прадукцыя цукру ўзрасла ўдвое: у 1924-25 г. вытворчасьць рафінаду ўяўляла ўсяго 47 проц. даваеннай прадукцыі, у 1926-27 г. ужо—89,2 проц., а ў 1927-1928 г. мае дайсьці да 125 проц.

Пры гэтым трэба адзначыць, што аб'яднаны аддзел прадукцыі ўзрастае значна шпарчэй за тую (параўнальна нязначную) частку, якая знаходзіцца ў прыватных руках, ды што гэты ўзрост на Савецкай Украіне шпарчэйшы, чымсьці ва ўсім СССР.

Гэта ілюструецца наступнымі лічбамі:

**Удзельная вага аб'яднанай прамысловасьці ў СССР і УССР у процантах [1])**

СССР

| 1923-24 | 1924-25 | 1925-26 | 1926-27 |
|---|---|---|---|
| 75,1. | 78,2. | 81,8. | 81,9. |

УССР

| 1924-25 | 1925-26 | 1926-27 | 1927-28 |
|---|---|---|---|
| 85,7. | 86,5. | 90,0. | 90,7. |

Сымбаль вялікіх дасягненьняў на гаспадарчым полі, гэта проста такі гістарычнага памеру праца над будаўніцтвам *Днепрабуду*—вялічэзнай электрычнай станцыі на Дняпроўскіх парогах. Цяпер цяжка акрэсьліць вялічэзную значнасьць гэтай працы, якая якраз цяпер праводзіцца поўным ходам. Днепрабуд гэта будзе ня толькі сілавая крыніца электрычнай энэргіі для сотак тых фабрык, якія існуюць ужо цяпер. Пабудова Днепрабуду дасьць мажлівасьць пабудаваць цэлы шэраг новых сацыялістычных прамысловых прадпрыемстваў. Цяпер ужо праэктуецца стварыць навакол Днепрабуду цэлую сетку вялікіх фабрык, якія будуць адыгрываць значную ролю ў жыцьці ўсяго СССР. Днепрабуд—гэта ў недалёкай будучыні адзін з наймацнейшых асяродкаў рэволюцыйнага пролетарыяту, гэта пашырэньне і ўзмацненьне пралетарскай базы УССР і СССР.

Пра становішча сельскай гаспадаркі даволі будзе сказаць, што гэтая гаспадарка на Украіне, зруйнаваная за час імпэрыялістычнай вайны, грамадзянскіх войн і нападу Пілсудзкага, а з цягам часу парушаная голадам 1921 г. і неўраджаем 1924 г., ня толькі адбудавалася, але і перайшла ўжо даваенны ўзровень. Так, напрыклад, пасеўная плошча Украіны ў 1926-27 г. была большай супроць даваеннага ўзроўню на 4,7 проц., а супроць 1916 г. на 12,3 проц. Асаблівы поступ дасягнуты на полі інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі, уздыму яе

[1]) Весткі гэтыя бярэм з кніжкі „Два роки роботи. Звіт Центрального Комітету КП(б)У". Харків—1927 р.

на вышэйшую ступеню разьвіцьця. Так напрыклад, сельская гаспадарка Украіны здабыла ў 1925 г. сельска-гаспадарчых машын на 16 мільёнаў руб., у 1926 г.—на 28 мільёнаў р., у 1927—на 43 мільёны рублёў. На працягу апошніх гадоў сельскай гаспадарцы дастаўлена 8.000 трактараў, і з іх на сялянскую гаспадарку прыпадае 6.800 (рэшта на савецкія, калектыўныя гаспадаркі і інш.).

Гэткую самую характарыстычную сілу маюць лічбы, якія малююць засеў буракоў у сялянскіх гаспадарках: у 1925 г. сяляне на падзельных глебах засявалі 280.000 дзесяцін, у 1927 г.—363.000 дзесяціны, а ў 1928 г. праэктуецца засеў 410.000 дзесяцін.—Бюджэт Савецкай Украіны ўзрос з 271 мільёну рубл. у 1924-25 г. на 524 мільёны ў 1926-1927 годзе.

Па меры гаспадарчага росквіту ўздымаецца жыцьцёвы ўзровень працоўных мас. Пра гэта сьведчаць, між іншага, весткі заработнай платы. Вось, як узрастаў сярэдні заработак прамысловых рабочых на Савецкай Украіне:

| | | |
|---|---|---|
| 1923-24 | 39,09 | руб. (у чырвонцах) |
| 1924-25 | 43,90 | „ „ |
| 1925-26 | 56,21 | „ „ |
| 1926-27 | 61,08 | „ „ |
| Красавік—чэрвень 1927 | 63,02 | „ „ |

Плата вышэйшая за даваенную. Так, напрыклад, у Кіеўскай акрузе плата ўсіх рабочых вышэйшая супроць 1912 г. на 32 проц. Калі-ж прымем пад увагу сацыяльнае забясьпечаньне і патраты на культурную справу (бібліатэкі, клюбы і інш.), дык угледзім, што заработная плата павялічылася на 50 проц. Заработная плата жанчын раўняецца мужчынскай плаце. Асабліва клапоціцца ўрад аб рабочай моладзі. Вельмі пунктуальна прытрымліваецца 8-гадзінны рабочы дзень. У Кіеўскай, напр., акрузе ў 1913 г. рабочы дзень цягнуўся 9,7 гадзіны, а ў 1926 г.—7,55 гадзіны. Цяпер, дзякуючы гаспадарчым дасягненьням, пралетарская дзяржава прыступае ўжо да гістарычнай справы ўвядзеньня 7-мі гадзіннага рабочага дню.

Пралетарыят Савецкай Украіны прымае найактыўнейшы ўдзел у кіраўніцтве краявым гаспадарчым жыцьцём. Прафсаюзы маюць беспасрэдны ўплыў ня толькі на становішча рабочых на фабрыцы, але й на цэлы ўклад вытворчага працэсу. Так у 1924 г. прафсаюзы мелі 1.092.512 сяброў, у 1925 г.—1.230.878, у 1926 г.—1.592.986, а на першае студзеня 1927 г.—1.922.484 сябры.

Разам з узростам прафруху паступова павялічваецца колькасьць КП(б)У—правадыра і кіраўніка пралетарыяту і салянства Украіны.

Гаспадарчы росквіт і поступ сацыялістычнага будаўніцтва—вось дзе на Савецкай Украіне падваліны буйнага росквіту ўкраінскай сацыялістычнай культуры, нацыянальнай па сваёй форме, інакш кажучы, па мове, але напоўненый міжнародным, пралетарскім зьместам. На ўсіх дзялянках асьветы і культуры адбываецца проста такі гараная праца. Ад самага падмурку навучаньня дзяцей і барацьбы з няпісьменнасьцю—да найвышэйшых паверхаў навукі і мастацтва рабочыя і сяляне Савецкай Украіны будуюць будыніну *свае* асьветы, *свае* культуры. Вялічэзным крокам ступае наперад барацьба з няпісьменнасьцю. На працягу апошніх трох гадоў зьліквідавана няпісьменнасьць двух мільёнаў людзей. Амаль ня ўсе дзеці ад 8-мі да 11-ці год па гарадох вучацца (95—98 проц.). Наогул, каля 85 проц. дзяцей ахоплена школьнай сеткай.

КП(б)У і савецкая улада паступова праводзіць *украінізацыю*, якую, як заданьне партыі, паставіў ва ўсёй паўнаце IX зьезд КП(б)У. І зноў такі лічбы найлепш паказваюць бессаромлівую брахлівасьць паклёпніцкай кампаніі групы Васількова-Туранскага. На 1 студзеня 1923 г. з агульнага ліку працоўных школ было 50% школ з украінскай мовай выкладаньня; на 1-шае студзеня 1927 г.—80,7%. Сямігодак з украінскай мовай выкладаньня было ў 1925 годзе—54,1%, а на 1-шае студзеня 1927 г.—61,8% і г. д. У 1922 г. у ніжэйшых школах з украінскай мовай выкладаньня вучылася 700.000 дзяцей, а цяпер вучыцца іх 2.000.000. Вышэйшыя і прафэсыйныя школы украінізаваны ўжо на 50%.

Вялікі поступ зроблены і ў выдавецкай галіне: на працягу шасьці апошніх гадоў вышла ўкраінскіх кніжак больш, чым за папярэднія 130 гадоў. Тыраж усіх украінскіх газэт у 1924 г. налічваў 90.000, а ў 1926 г. дасягнуў ужо 500.000. Дзякуючы дапамозе савецкай улады, што раз буйней расквітае таксама навука і мастацтва. Досыць прывесьці факт узьнікненьня і бліскучага росквіту Акадэміі Навук у Кіеве вялічэзныя здабыткі ў галіне тэатральнага мастацтва (чатыры ўкраінскіх тэатры ў Харкаве), росквіт музэяў (надзвычайны агранамічны музэй у Кіеве), выстаўка ўкраінскага малярства да 10-ай гадавіны бальшавіцкай рэвалюцыі і г. д.

Асаблівую ўвагу зьвяртае КП(б)У на справу ўкраінізацыі дзяржаўнага і партыйнага апарату. У 1925 г. украінізацыя дзяржаўнага апарату Савецкай Украіны ахапляла 20%; у другой палове 1926 г.—яна ахапіла ўжо 65%, а на 1 студзеня 1927 г. усе кіраўніцтва ў дзяржауным апараце Савецкай Украіны (за выключэньнем нацыянальных раёнаў) пераведзана на ўкраінскую мову.

Пра тэмп украінізацыі партыі сьведчаць наступныя лічбы: у 1924 г. у кіраўнічых партыйных кадрах украінцы складалі 33%, у 1925 г.—37%, у 1926 г.—52%. Ва ўсёй партыі ўкраінцы складалі такі процант: у 1924 г.—33%, у 1925 г.—38%, у 1926 г.—49%. Паміж членамі акруговых партыйных камітэтаў украінцы складалі: у 1923 г.—31,8%, у 1924 г.—34,3%, у 1925 г.—38,9%, у 1926 г.—43,8%. Паміж сакратароў акруговых камітэтаў перад IX зьездам КП(б)У было 26% украінцаў, а цяпер—46%.

Таксама шпарка расьце ўкраінізацыя ў Саюзе Камуністычнай Моладзі Савецкай Украіны. У 1924 г. украінцы тут складалі 50,9%, у 1926 г.—67,1%.

Гаспадарчы росквіт Савецкай Украіны, а таксама будаўніцтва на культурным полі садзейнічаюць шпаркаму ўзросту ўкраінскага насельніцтва ў гарадох, выраўніваюць гэтую супярэчнасьць паміж горадам і вёскай, якая існавала перад рэвалюцыяй, а выяўлялася, між іншым, у тым, што вёска была ўкраінская, а горад—расійскі. У 1923 г. на 100 гараджан у Савецкай Украіне прыпадала 43,1 украінцаў, у 1926 г.—47,2 украінцаў. У вялікіх гарадох, як Харкаў, Кіеў, Адэса, Днепрапятроўск, украінцы складалі у 1923 г.—25,2%, а ў 1926 г.—39,2%.

Вось так, дзякуючы пралетарыяту і яго партыі—КП(б)У, працоўныя масы Савецкай Украіны дзень за днём уздымаюць вышэй будыніну новага супольнага жыцьця і твораць украінскую сацыялістычную культуру. Атакі-ж Васількова-Туранскага зьяўляюцца ні чым іншым, як паклёпніцкай кампаніяй нацыяналістычных інтэлігентаў, якім у вочы коле істота міжнароднасьці савецкай улады і ленінская палітыка камуністычнай партыі. Атакі гэтай групоўкі нацыяналістычных рэнегатаў ні на йёту не падобны да жаданьня выправіць тыя памылкі,

якія, бязумоўна, маюцца пры вялікай справе будаваньня новага жыцьця. Гэта ўсяго толькі скутак націску буржуазіі і вярхоў дробнага мяшчанства, якія адчуваюць сабе пагрозу ад вялікага поступу сацыялізму ў УССР.

## Вакольнымі шляхамі апартунізму

Нацыяналізм у рабочым руху азначае выяўленьне таго, што ў працоўныя масы прасочваюцца чужыя ім клясавабуржуазныя і дробнамяшчанскія плыні. Нацыяналізм у рабочай партыі—гэта адна з найтыповых адзнак апартунізму, гэта мост, перакінуты ў лягер клясавых ворагаў, гэта ў сваёй істоце—пераход на грунт *наяўнага* аб'яднанага ўкладу, варожыя адносіны да сацыяльнай рэвалюцыі і супроцьстаўленьне ёй сацыяльнага рэфармізму.

Вось таму мы мелі гэтулькі прыкладаў, як нацыянальныя „рэвалюцыянэры", пасьля зьдзяйсьненьня свае буржуазнае нацыянальнае праграмы, адбівалі вельмі хуткую эвалюцыю направа, завяршаючы яе фашызмам, становячыся выяўнікамі і знаманосцамі інтарэсаў вялікага капіталу. Клясычныя, дастатковыя для нас па гэтаму поваду зьвесткі падаюць нам праваднры ППС, пачаўшы ад атамана фашыстаў—Пілсудзкага.

Група Васількова-Туранскага адбівала была эвалюцыю ад дробнамяшчанскага нацыяналізму да камунізму ў такі час, калі перад тымі, хто імкнуўся незалежнай Украіны, была ўсяго адна пэрспэктыва—арыентацыя на Ўсход, на Украінскую Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку. Якраз таму, як мы бачылі вышэй—нават паміж буржуазіяй і вярхамі дробнага мяшчанства ў тыя часы больш-менш выразна вызначалася арыентацыя на УССР, якая павінна была, на іхны погляд, быць зародышам будучай адзінай буржуазнай Украіны. Пры зьмене міжнароднай сітуацыі ўкраінскай буржуазіі адчынілася *іншая пэрспэктыва*—дамагчыся „незалежнай" буржуазнай Украіны, абапіраючыся на заходня-эўрапейскі імпэрыялізм і паставіўшы сябе ў залежнасьць ад фашысцкай Польшчы. Гэтая другая пэрспэктыва пачала, між іншым, уплываць і на частку тых элемэнтаў, якія перайшлі да рабоча-сялянскага лягеру з лягеру дробнага мяшчанства. У ранейшыя часы Васількоў і яго таварышы выходзілі з той прадпасылкі, што ўзьнікненьне і існаваньне незалежнай Украіны, як буржуазнай дзяржавы, „немажліва"; цяпер гэтая немажлівасьць, як відаць, сталася ўжо не такая абсалютная. І вось бачым, як сілаю цэлага вузлу прычын група Васількова-Туранскага што раз мацней выступае на пряцярэблены шлях апартунізму.

Адным з першых фактаў, якія сыгналізавалі ў ранейшым кіраўніцтве КПЗУ апартуністычную небясьпеку, была рэзалюцыя па пытаньні *аб зямлі з выкупам,* ухваленая пленумам ЦК КПЗУ ў студзені 1927 г. Гаворыцца ў ёй наступнае:

„З усёй сілай вылучаючы надалей лёзунг „зямля бяз выкупу", партыя аднак павінна процівастаўіць ашуканскай урадавай парцэляцыі і парцэляцыйным спэкуляцыям ундаўцаў лёзунг падзелу буйнаўласьніцкай зямлі паміж сялянствам па цане, устаноўленай самымі сялянамі".

Супярэчачы сьцьвярджэньню гэтай пастановы, лёзунг „зямля з выкупам" ня быў супроцьстаўленьнем „ашуканскай парцэляцыйнай палітыцы ўраду", а супроцьстаўленьнем даўнейшаму лёзунгу—пазбаўленьне памешчыка права на зямлю,—новага лёзунгу: нізкіх цэн на зямлю. Гэткім чынам, група Васількова-Туранскага саступіла націску кулацтва і вышэйшых серадняцкіх колаў, бо якраз іхным інтарэсам служыць лёзунг нізкіх цэн на зямлю. Такім чынам, далей, група Васількова-Туранскага дала сябе зацягнуць да падступных плянаў

Пілсудзкага, накіраваных на тое, каб зьвязаць з фашызмам вышэйшыя колы ўкраінскай вёскі,—а гэтыя пляны зьяўляюцца складанай часткай у падрыхтоўваньнях польскага фашызму да вайны супроць СССР.

Выстаўленьне лёзунгу нізкіх цэн на зямлю было першым сымптомам таго, што група Васількова-Туранскага ў новай сітуацыі ўзышла на шлях што раз большага сьціраньня мяжы з ундоўскім лягерам. Якраз і УНДО ў сваёй праграме 1926 г. выставіла лёзунг „зямлі для сялян бяз выкупу“. Аднак празорлівыя галіцкія адвакаты адразу-ж канфідэнцыяльна падпоўнілі гэты пункт праграмы УНДО камэнтарыем наступнага зьместу: „Каб не дапусьціць пераходу зямлі з вялікіх краёвых паселішчаў у рукі чужога элемэнту (польскіх калёністаў), Народны Камітэт (УНДО) будзе падтрымоўваць арганізаваны нашымі гаспадарчымі інстытуцыямі крэдыт на *куплю зямлі*, хоць гэткі спосаб пераходу зямлі супярэчыць праграме УНДО“.

„Наша Правда“ падае да гэтай паступовы Народнага Камітэту УНДО гэткую слушную ўвагу:

„Словам, не памёр Даніла, а балячка задавіла. Сяляне! Пад сьцягам УНДО змагайцеся за зямлю бяз выкупу, шляхам выкупваньня гэтае зямлі! („Наша Правда“, чэрвень-ліпень 1926 г. ст. 65).

Паўгода па тым Васількоў, Туранскі і Максімовіч імкнуліся перанесьці вынаходку ундоўскіх адвакатаў на шлях камуністычнага руху. Выстаўляць, ды яшчэ з усёй сілаю, лёзунг „зямлі бяз выкупу“, а адначасова праводзіць кампанію за выкуп па ўстаноўленай сялянамі цане—ці ня добры гэта, сапраўды, рэцэпт, як нявіннасьць згубіць і капітал прыдбаць!

Трэба адзначыць, што Васількоў і Туранскі ўпарта баранілі сваю шкадлівую пазыцыю ў зямельнай справе. Так, напрыклад, на пленарным пасяджэньні ЦК КПЗУ ў маі 1927 г. Васількоў заўзята бараніў лёзунг „зямля для сялян па ўстаноўленай імі самымі цане“. Праўда, Васількоў, Туранскі і Максімовіч на IV зьезьдзе КПБ галасавалі за пастанову, якая асуджала іхную пазыцыю ў гэтай справе, але то быў толькі манэўр, таксама, як зьездаўскія заявы супроць Шумскага і Максімовіча былі ім толькі як вылазка, каб ашукаць партыю і Камінтэрн.

І вось, пасьля IV зьезду лёзунг зямлі бяз выкупу ў выступленьнях групы Васількова што раз больш адыходзіць на задні плян. Возьмем, напрыклад, соймавую выбарчую пляцформу, якая сьпярша зьявілася ў выглядзе праэкту ў Бюлетэні Палітычнага Бюро КПЗУ 1 сьнежня 1927 г.— з працягам часу яна выдрукавана ўжо як „Пастанова“ так званай „8-й канфэрэнцыі“. Чытаючы гэтую пляцформу, кідаецца ў вочы, што справа *барацьбы за зямлю* амаль цалкам у ёй выпушчана. Аўтары пляцформы (14 друкаваных на машынцы старонак) палічылі лішнім затрымлівацца над аналізам адносін ў заходня-ўкраінскай вёсцы, а самы лёзунг зямлі без выкупу—ужыты ва ўсёй пляцформе адзін раз—штучна прышпілены ў ёй да частковых эканамічных патрабаваньняў пралетарыяту. А галоўнае, паралічыўшы шэраг лёзунгаў, пад якімі КПЗУ мае разгортваць выбарчую кампанію (барацьба супроць фашызму, за рабоча-сялянскі ўрад, за самавызначэньне і далучэньне Заходняй Украіны да УССР, барацьба супроць вайны і палітыкі ўзбраеньня і г. д. і г. д.) пляцформа Васількова-Туранскага пераходзіць да частковых эканамічных патрабаваньняў:

„Барацьба супроць капіталістычнай рацыяналізацыі—за 8-гадзінны рабочы дзень, супроць падатковага цяжару, за зямлю для сялян бяз выкупу“ (Пастановы 8-ай канфэрэнцыі КПЗУ, ст. 59).

У гэтай самай выбарчай пляцформе Васількова-Туранскага знаходзім яскрава апартуністычную пазыцыю *ў справе самаўраду:*

„КПЗУ павінна праводзіць барацьбу *супроць імкненьняў фашызму зьліквідаваць органы самаўраду* ў Заходняй Украіне шляхам падначаленьня іх органам фашысцкай дыктатуры, павінна праводзіць барацьбу за аднаўленьне і пашырэньне правоў і компэтэнцыі органаў самаўраду ў горадзе і на вёсцы, організуючы ў іх свае фракцыі і *ажыўляючы іхную працу* і барацьбу з штодзеннымі бедамі працоўных (тыя самыя „Пастановы“, ст. 61).

Гэткім чынам, Васількоў і Туранскі падаюць тут апартуністычны лёзунг узмацненьня самаўрадаў у фашысцкім рэжыме, выступаюць не як абаронцы рабочых і сялянскіх інтарэсаў, а як абаронцы буржуазнай дэмакратыі і яе інстытуцый.

Цалкам іншае становішча займаюць у гэтай справе камуністы. Яны ўваходзяць у сойм і ў органы самаўраду не дзеля таго, каб пашыраць іхныя „правы і компэтэнцыю“, не дзеля таго, каб „ажыўляць іхную працу“. Сойм, гарадзкія і сельскія рады гэта для камуністаў усяго толькі мясьціны агульнага фронту барацьбы супроць фашызму, супроць грамадзкага і нацыянальнага прыгнечаньня. Камуністы змагаюцца там, абараняючы не „дэмакратычныя інстытуцыі“, а выключнае і адзінае права рабоча-сялянскіх мас. Камуністы рашуча перамагаюць і будуць перамагаць надалей усялякія спробы сеяць у масах парлямантарную ману шляхам вылучэньня такіх лёзунгаў, як „пашырэньне самаўрадаў“ і інш.

Належыць таксама адзначыць, што лёзунг узмацненьня і дэмакратызацыі самаўрадаў вынікае з шкадлівага ў сваёй аснове погляду на выбары ў органы самаўраду, як на *барацьбу за ўдзел* ва ўладзе ў рамках капіталістычнага і фашысцкага ўкладу. Выразна ставіць гэта „Світло“ у № 28 (92): „Выбары ў органы самаўраду—гэта толькі малая частка клясавага фронту, гэта барацьба за тыя драбніцы ўлады, якія мае гарадзкая ці вясковай рада!“

Апартуністычным ў сваёй істоце зьяўляецца таксама пададзены васількоўцамі *лёзунг барацьбы за „выбарчае права толькі для рабочых і сялян“*. Можна было-б яшчэ спрачацца за мэтазгоднасьць гэткага лёзунгу, калі-б яго мелася на ўвазе разумець, як пэўны псэўдонім дыктатуры пралетарыяту. Лічым, што і ў гэткім разе выстаўленьне ва ўмовах фашызму лёзунгу барацьбы за выбарчае права толькі для рабочых і сялян ня было-б слушным, бо, зразумела, што ўмоваю зьдзяйсьненьня гэтага лёзунгу зьяўляецца ўзяцьце ўлады, пераход яе да працоўных мас. Наогул, мы ня бачым патрэбы замяняць зразумелы кожнаму рабочаму і селяніну лёзунг рабоча-сялянскага ўраду на лёзунг выбарчых правоў для рабочых і сялян. А між тым, уся моц у тым, што васількоўцы разумеюць барацьбу за выбарчае права толькі для рабочых і сялян, як адзін з частковых палітычных лёзунгаў. З поўнай выразнасьцю гэта выяўляецца ў іхнай пастанове аб выбарах у сойм, дзе сьпярша трактуецца пра канчатковыя лёзунгі—у тым ліку нізрынуцьце фашызму, рабоча-сялянскі ўрад, самавызначэньне, і інш.—а пасьля ўжо пра частковыя лёзунгі. Знаходзім тут такія лёзунгі: барацьба за палітычныя правы для рабочых і сялян і іх арганізацый, барацьба супроць роспуску гэтых арганізацый (профсаюзы, Прасьветы, Лігі), за наданьне ім масавага характару, за выбарчае права толькі для рабочых і сялян і г. д. (Пастановы 8-ай Канфэрэнцыі КПЗУ, ст. 69).

Вось-жа, лёзунг выбарчага права толькі для рабочых і сялян, як *частковае палітычнае вымаганьне*, ня толькі не мабілізуе масу на барацьбу з фашысцкай дыктатурай, але вынікам сваім павінна сеяць

шкадлівую ману, нібы можна зьдзейсьніць гэты лёзунг на шляхох „ажыўленьня“ дэмакратыі, перамог у барацьбе за выбарчыя карткі і г. д.

У цэлым шэрагу спраў лыцары ідэі Шумскага выяўлялі абсалютную адсутнасьць ідэалёгічнага адбою супроць пазыцый нашых ворагаў, даючы цягнуць сябе на павадку сацыял-патрыётам з ППС і нацыяналістам з УНДО. Так, напрыклад, улетку 1927 г. член львоўскай Рады Прафсаюзаў, пазьнейшы кандыдат раскольніцкага сьпісу № 36 у Львове, Каляцінскі, выказаў сваю згоду на аднолькавы фронт з правадырамі ППС на пляцформе вымогі вызваліць палітычных вязьняў *усяго сьвету.* А вадома, што гэты лёзунг вылучала якраз ППС, супроцьстаўляючы яго барацьбе працоўных мас за вызваленьне палітычных вязьняў *у фашысцкай Польшчы;* ён стаўся „сацыялістычным“ наймітам Пілсудзкага адыходным пунктам для кампаніі супроць СССР і „чырвонага тэрару“.

Да шэрагу фактаў тэй самай катэгорыі трэба занесьці ўдзел рэдактара „Культуры“ Рудыка ў аднастайным ундоўска-радыкальным фронце, калі гутарка ішла пра *дэкрэт аб прэсе.* У той час, калі камуністычная партыя змабілізавала да барацьбы з фашысцкім тэрарам і прыдушэньнем рабоча-сялянскага друку як мага шыршыя колы ўсіх нацыянальнасьцяў, пад выразнымі лёзунгамі клясавай барацьбы, людзі падобныя да Рудыка ішлі па лініі супольнага нацыянальнага фронту з ундоўскімі наймітамі фашызму.

Варта тут адзначыць выступленьне шумскістаў супроць агалашэньня на зьезьдзе ўкраінскіх каапэратываў рэзалюцыі аб звальненьні ў Польшчы палітычных вязьняў, з такою матывіроўкай, што, быццам, на каапэратыўным фронце павінна праводзіцца „канкрэтная праца“.

### Арганізацыйная палітыка групы Васількова

Дробнамяшчанскі характар групы Васількова-Туранскага вызначаў сабою і напрамак яе арганізацыйнай палітыкі. Зьвязаная тысячма злучэньняў, з нацыяналістычным атачэньнем яна з недавер‘ем глядзела на ідэю пралетарызацыі партыі. Зразумела, калі-б партыйная арганізацыя абапёрлася на вялікія прамысловыя асяродкі, гэта павінна было-б павесьці за сабою выразную адмову Васількова і яго палітычных сяброў ад свайго нацыяналістычнага мінулага, рашучае адмежаваньне ад усялякіх уплываў дробнамяшчанскай ідэалёгіі, праўдзівую бальшавізацыю і інтэрнацыяналізаваньне партыі. Нежаданьне па-сапраўднаму абаперці КПЗУ на прамысловы пралетарыят узмацнялася яшчэ, трэба дадаць, тым фактам, што пралетарыят у Заходняй Украіне ў значнай ступені зьяўляецца польскім і яўрэйскім, а нацыянальны момант заўсёды адыгрываў у васількоўцаў першую ролю.

Арганізацыйная сыстэма групы Васількова-Туранскага не абапіралася на пабудову масавай камуністычнай партыі, закладзенай на ленінскіх арганізацыйных асновах. Стварыць такую арганізацыю, якая-б ня мела магчымасьці рашуча ўплываць на партыйнае кіраўніцтва, якая была-б паслухмяным і бязвольным аружжам у руках кіраўнічага цэнтру—вось дзе вехі арганізацыйнай палітыкі ранейшай кіраўнічай групы ЦК КПЗУ.

Вось таму і арганізацыйнай асноваю для Васількова-Туранскага былі не партыйныя ячэйкі, а сетка (між іншым, ня вельмі густая) давераных асоб ранейшай кіраўнічай групы. Як правіла, арганізацыя будавалася ня з нізу. Давераныя ў групе Васількова асобы імкнуліся і далей у масы пераносіць мэтад падбору „давераных“, пасьвечаных ва ўсе таямніцы.

Гэткая арганізацыйная сыстэма садзейнічала *надзвычайнаму разростаньню цэнтральнага апарату*, пры вельмі крохкай пабудове гарадзкіх і акруговых арганізацый. Кіраўнічая група абкружыла сябе цэлым штабам „тэхнікаў“, „рэдактароў“, „кіраўнікоў аддзелаў“ (яны існавалі пераважна на паперы) і лічыла сабе, што яны ўласна і выяўляюць сабою партыю. А ў рэчаістасьці гэта была нейкая „мафія“, альбо, калі-б хто жадаў сказаць інакш, „кліка“, якая паразытавала на партыі і імкнулася завесьці ў партыйным руху чужыя арганізацыйныя мэтады.

Група Васількова, старанна сьцеражучы выключна *манаполію сваіх уплываў*, як агню, баялася ўздыму палітычнай і арганізацыйнай самадзейнасьці сяброў партыі, жадных дыскусій, бо яны толькі дэмаралізуюць партыю—такі быў лейтматыў арганізацыйнай палітыкі васількоўцаў. А на справе, дык тут *уся сіла была ў боязьні перад тым, што партыя разгорне ў сабе самадзейнасьць*, і недзе выб'юцца на паверхню незалежныя адзінкі, якія вырасьлі з пралетарскай асновы: глядзі, здолеюць сябе супроцьпаставіць манапалістычнай групе.

— Нашто ўся гэтая дыскусія, уся тая вялікая палітыка—досыць таго, што члены партыі атрымоўваюць дырэктывы з цэнтру і старанна праводзяць іх у жыцьцё!—Вядомая рэч, што пры гэткім поглядзе на ролю партыйных арганізацый, чым далей, тым больш запаноўвалі мэтады „камісарства“, „камандаваньня“ і сьляпой пакоры—мэтады, супярэчныя разуменьню бальшавіцкай дысцыпліны, абапёртай на моцны ідэалёгічны падмурак.

У адносінах тых арганізацый і членаў партыі, якія адважыліся мець сваю думку і нейкім спосабам супроцьставіць сябе кіраўнічай групе, ужываліся арганізацыйныя рэпрэсіі, ня гледзячы на тое, як гэта адбівалася на ўсёй партыйнай рабоце. У якасьці прыкладу можна прывесьці гісторыю валынскай і станіславаўскай арганізацый.

Калісьці ў валынскай арганізацыі вызначаліся шкадлівыя ўнутраныя тэндэнцыі супроць КПЗУ (пастанова канфэрэнцыі 1925 г., якая вымагала краёвага камітэту). Пасьля таго, валынская арганізацыя была разьбіта. І вось, ранейшая кіраўнічая група ЦК КПЗУ, заміж выкараненьня ўнутраных тэндэнцый у працэсе работы над адбудоваю арганізацыі, скарыстала ў гэтай справе іншы прынцып: зусім яе не адбудоўваць. Гэткім чынам, на працягу двух мінулых год валынская арганізацыя КПЗУ фактычна не існавала. Яшчэ большую паказальную сілу маюць адносіны групы Васількова-Туранскага з станіславаўскай арганізацыяй. Вось як—згодна звароту станіславаўскіх таварышоў—выглядала ў тэй акрузе партыйная сітуацыя ў 1927 г.

„Цяперашняя сітуацыя ў станіславаўскай акрузе выглядае так, што ў сапраўднасьці існуе дзьве партыйныя арганізацыі: адна „афіцыйная“, другая фактычная. У першую ўваходзіць групка з некалькіх асоб (пераважна урадоўцы); яны, за сабою і сваімі фальшывымі паведамленьнямі, нікога ня маюць. Другая—усе тыя, хто да 1924 г. і з таго часу праводзіў усю партыйную работу, і, не зважаючы на тое, што фармальна застаецца па-замежамі „афіцыйнай“ арганізацыі, праводзяць яе і далей.

З станіславаўскага паведамленьня дазнаемся далей, як гэткая сыстэма пакладаньня на „давераных асоб“ і незаклапочанасьць партыйным калектывам давяла да расколу арганізацыі, пры чым уся арганізацыя, разам з акруговым камітэтам, апынулася на адным баку, а „давераная асоба“ Васількова разам з парай сваіх „давераных“—на другім. Гэткіх фактаў, якія дэмаралізавалі і разьбівалі партыйную

арганізацыю, было больш; некаторыя з іх вось толькі цяпер выплываюць на дзеннае сьвятло.

Зразумелая рэч, што гэткага роду арганізацыйная лінія павінна была як найфатальней адбіцца на становішчы партыі. Праўда, паасобныя таварышы, члены ЦК, кіраўнікі раёнаў, як і ўся маса членаў КПЗУ, упарта стаялі на варце, высака трымалі чырвоны сьцяг КПЗУ— аднак, арганізацыя пры шкадлівым кіраўніцтве не магла разьвівацца як сьлед. Вось-жа, бачым, што ў тэй час, калі ў 1925-27 г. г. лік членаў КПП на тэрыторыі ўласна Польшчы падвоіўся, у КПЗУ выяўляецца хутчэй тэндэнцыя да зьмяншэньня. Варта адзначыць, што лік членаў КПЗУ ў канцы 1927 г. ледзь складаў $^1/_5$ ліку членаў кампартыі Заходняй Беларусі!

Хібная арганізацыйная пабудова найфатальней адбівалася таксама на дзейнасьці ЦК КПЗУ—ня толькі тым, што ён ня меў сапраўднай сувязі з партыяй і рабочымі масамі, а яшчэ тым, што група Васількова-Туранскага трактавала самы ЦК, як пэўнага роду шырму для сваёй групы, што яе заданьнем было толькі санкцыянаваць вырашэньні, наперад прынятыя ў цесным коле асоб выбраных і пасьвячоных ва ўсе таямніцы.

Калі ў ЦК КПЗУ адзначалася палітычнае разыходжаньне, калі два таварышы рашуча запрацівіліся падтрымоўваць Шумскага і ўсю нацыяналістычную лінію, група Васількова-Туранскага, баронячы свае манаполіі, павяла супроць гэтых таварышоў безаглядную барацьбу, імкнучыся іх зьнішчыць, здыскрэдытаваць, пазбавіць якога-небудзь уплыву на арганізацыю.

У адносінах да ўсёй КПП група Васількова намагалася праводзіць найбольшы *аўтанамізм*, ня толькі арганізацыйны, а і палітычны. Адсюль тэндэнцыя адарваць справы Заходняй Украіны ад спраў цэлай партыі, кітайскай сьцяной адмежаваць КПЗУ ад камуністычнага руху ў Польшчы і Заходняй Беларусі. Вось, скажам, характэрна, што справу шумскізму, тую, якая ў хуткім часе сталася прычынаю крызісу кіраўніцтва КПЗУ, Васількоў зусім не паставіў на ЦК КПП, што кіраўніцтва цэлай партыяй апынулася перад гатовым фактам далучэньня ранейшай кіраўнічай групы ЦК КПЗУ да нацыяналістычнага ўхілу КП(б)У.

Група Васількова-Туранскага жадала пайсьці на раскол, жадала парваць з КПП і Камінтэрнам, абы ня страціць арганізацыйнай манаполіі, абы мець магчымасьць аддаць партыйны апарат на службу украінскаму нацыяналізму. Васількоў і Туранскі забыліся аднак, што, у выніку свае арганізацыйнае сыстэмы, яны мелі ня партыю, а „мафію" сваіх падручных. Партыю будавалі тыя, хто стаў на пазыцыю КПП і Камінтэрну. Вось-жа, у часе адыходу васількоўцаў на адным баку апынулася цэлая партыя, а групоўка нацыяналістычных рэнегатаў—на другім.

*(Канец будзе).*

Б. Быховский

# 10-е августа германской социал-демократии

Ни один здравомыслящий человек не сомневается, что германская социал-демократия останется верной своим традициям, последовательной в своей политической линии. Нужно быть идиотом или негодяем, чтобы усомниться в том, как будет вести себя партия Носке-Зеверинга, когда в ворота истории постучит своим костлявым пальцем война, чтобы усомниться в том, что эта партия повторит грозный и грязный шаг 4-го августа 1914 года. Но истории—даме капризной и своенравной—угодно было произвести публичную генеральную репетицию грядущего 4-го августа 19... г. В главной роли—райхсканцлер Герман Мюллер. Конферансье—редактор „Форвертса"—Штампфер, в роли обманутого и одураченного персонажа миллионы германских пролетариев.

Но, давайте, все по порядку.

---

Несколько месяцев тому назад, когда в райхстаге и райхсрате обсуждался вопрос о постройке броненосца „А", социал-демократы—как и демократы—выступали и голосовали против этой постройки SPD была в оппозиции. В воздухе пахло перевыборами райхстага. SPD мечтала о портфелях. SPD оглядывалась на массы. Постройка броненосца была тогда все же условно принята против голосов коммунистов, социал-демократов и демократов.

Началась избирательная борьба. Замерцали блуждающие огни избирательных программ, запестрели мыльные пузыри депутатских лозунгов. Социал-демократия, правильно оценивая настроения трудящихся, избрала одним из центральным лозунгом, под которыми она шла на арену избирательной борьбы, лозунг „против броненосца". Тысячи прожженных социал-шовинистов призывали массы голосовать за список № 1 (SPD), как за список партии, противопоставляющей расходам на морское вооружение расходы на улучшение положения трудящихся. Против броненосца—за улучшение рабочего быта, против вооружения—за улучшение социального страхования! На антимилитаристском коньке в'езжала социал-демократия в новый райхстаг, попирая броненосец, подбиралась она к министерским портфелям. В'ехала. Подобралась.

Отзвучали предвыборные речи. Отложена до следующих перевыборов радикальная бутафория. „Вожди" ведут торги с переторжками с буржуазией об образовании кабинета. Уступки. Концессии. Kuhhandel (коровий торг). Портфели во что бы то ни стало.

Но то, что для вождей было избирательным маневром, для масс было искренним убеждением и страстным чаянием. То, что для лидеров было орудием парламентских махинаций—средством к цели—было для миллионов избирателей делом классовой совести. Борьба против броненосца удерживала их у старых вождей, давала оправдание их позиции, была точкой опоры против атак справа и слева. Социал-

демократические избиратели отнюдь не собирались выбрасывать за ненадобностью антивоенные лозунги на другой день после парламентской победы. Ведь они-то (эти лозунги) и были смыслом и целью этой победы. Наступила пора их реализации. Социал-демократические массы были искренне убеждены, что пока во главе правительства стоит их партия—броненосец „А" построен не будет. Борьба против него стала как будто бы неот'емлемым аттрибутом социал-демократических убеждений.

Кабинет сформировался. Райхстаг успел раз'ехаться на летние вакации. Наступили месяцы политического затишья—ленивая Gauergurkenzeit (пора малосольных огурцов). Царила политическая инерция. По вопросу о броненосце тоже, как будто, ничего не изменилось. На скучной и казенной анти-военной демонстрации социал-демократии 1-го августа в Берлине можно было видеть транспаранты социал-демократической организации Neu-Köln'a, на одной стороне которых изображен броненосец, на другой—надпись гласила: „А мы голодаем". И это было в порядке вещей, ординарно.

Буквально за несколько дней до 10-го августа социал-демократическая печать повела энергичную травлю против милитаризма коммунистов, противопоставляя ему свой последовательный пацифизм. Поводом для этого послужил 6-ой конгресс Коммунистического Интернационала, установивший, что осью современной политической жизни является военная проблема. Если грядущая война—единственное условие победы пролетариата—заливался господин Штампфер и К-о—то задачей Москвы является не предотвращение, а ускорение ее наступления. Милитаризм есть большевистский путь к власти—запугивали социал-демократических младенцев няни из Брюсселя. Социал-демократия противопоставила трезвому учету 3-им Интернационалом исторической необходимости, империалистической деятельности, безудержный поток пацифистских слов. Герои 4-го августа рекламировали себя, как единственных последовательных сторонников мира. Усердие не по разуму дошло до того, что „сам" Брейтшейд говорил:

„Должны ли мы, как марксисты, вообще работать для достижения мира? Этот вопрос необходимо поставить, так как находятся люди, называющие себя марксистами, добивающиеся победы пролетариата только посредством новой *мировой войны*. Я думаю, что мы, социалисты, *предпочли бы вовсе* не добиваться победы пролетариата (einen Gieg des Proletariats lieber gar nicht erstreben würden), если бы она могла быть куплена лишь ценой новой мировой войны... Мы никоим образом не можем дожидаться со своей работой для мира до тех пор, пока будет полностью завоеван социализм, и поэтому мы сотрудничаем с Лигой Наций (курсив оригинала).

Здесь, что ни слово, то перл. „Мы, как марксисты" говорим языком Толстовского пацифизма. Обуреваемые необузданной жаждой мира, „мы" бросаемся в об'ятия империалистической Лиги. Одно мы охотно поверим Брейтшейду: то, что он во имя мира готов отказаться от социализма. Более того, мы помним, что он от него отказывался и во имя победоносной войны. Словом, при всех возможных обстоятельствах. Но для нас, в данном случае, важно то, что накануне 10-го августа Брейтшейд выступает как апостол мира во что бы то ни стало.

Таковы *слова* социал-демократии. Каковы *дела* ее?

11-го августа германская буржуазия праздновала день Республиканской Конституции. Позорный день! Республика оказалась не в силах отстоять свой праздник. Райхстаг отклонил признание этого дня нера-

бочим. Социал-демократия, ударами и в грудь и в спину пролетариата отстоявшая буржуазную Республику от атак социалистической революции, старалась отпраздновать этот день с возможной помпой. Что до того, что в это время немецкий рабочий гнул спину у станков,— его „представляли" на празднике господа депутаты. Все было в порядке. Райхсвер маршировал, хор пел о „Фатерланде", развевались черно-красно-золотые флаги, цилиндр социал-демократического премьера сиял отраженным светом цилиндра монархического президента Республики. Так уютно нести пацифизм в груди, шагая по правую руку господина фон-Гинденбурга!

В тот же самый день, на одной из внутренних страниц „Форвертса", в тени, среди праздничной тарарабумбии воровски притаилось скромное, в несколько строк, информационное сообщение. Кратко и смиренно сообщение извещало о том, что вчера, 10 августа, на заседании кабинета министров утверждено первое ассигнование в 9,3 миллиона марок на постройку броненосца „А". Вот и все. Ничего серьезного. Ничего заслуживающего статей и комментариев. Ничего нуждающегося в сенсационном заголовке. Будто отпуск кому-либо на две недели предоставили, или трамваем переехали. Ни слова об этом и на завтра. Ни одного слова.

Но замолчать совершенного было нельзя. Нельзя незаметно улизнуть с броненосцем под полой. Извещение о решении кабинета подействовало, как искра в пороховом складе. Для социал-демократических масс, bona fide проводивших кампанию против броненосца, манипуляция лидеров была потрясающей неожиданностью, неожиданным и непредвиденным ударом. Без лишних слов, безо всяких намеков на борьбу, их вожди сдали позицию, на которой они пришли к власти. Не поморщившись, проглотили они принцип, при помощи которого подымали избирателей несколько месяцев тому назад. Разве не затем их посылали в правительство, чтобы бороться против постройки броненосца? Голосование 10-го августа было непонятным, потрясающим для всякого честно заблуждающегося социал-демократического рабочего. Снизу поднялась волна недоумения, возмущения. Что могут рабочие социал-демократы теперь возразить своим коммунистическим соседям по станку или квартире? Как теперь им смотреть в глаза революционным рабочим, не устающим твердить о предательстве их партийных вождей?

... „Среди массы партийных товарищей возникло настроение, которое, пожалуй, наилучше может быть обозначено словами солдата Валентина: „И если бы я захотел их выгнать, не могу же я их, однако, назвать лгунами" (Форвертс, № 399).

Волна негодования росла. Самые доверчивые почувствовали себя обманутыми. На политическую сцену теперь выступили „левые". На очереди был их выход. Мюллер-Гильфердинг строили военное судно. Задача „левых" заключалась в том, чтобы возглавить вспыхнувшее возмущение масс. Возглавить, чтобы обезглавить. Захватить руководство брожением в свои руки, направить его по безвредному руслу, не дать волне захлестнуть партию. Не оказались бы „левые" на своем посту,—движение могло бы—спаси и помилуй бог Макдональда и Эберта—влиться в коммунистическое русло. „Левые" вышли на авансцену. Ауфгейзер и Тони Зендер потребовали немедленного созыва фракции райхстага. Местные социал-демократические газеты протестовали с провинциальной наивностью. „Leipziger Volkszeitung" „Rheinische Zeitung", маннгеймская „Volksstimme" потрясали картонными мечами.

